PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 24 (2196) Год XLIII Беласток 14 чэрвеня 1998 г. Цана 1 зл.

## Развітанне з выпускнікамі

Аляксей Мароз

29 мая ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы адбылася апошняя сустрэча з абітурыентамі.

Экзамены на атэстат сталасці — гэта найбольш напружаны час на працягу ўсёй вучобы кожнага ліцэіста. Падчас некалькіх тыдняў ідзе праверка ведаў, якія ліцэісты засвойвалі чатыры гады. Як звярталі ўвагу самі ліцэісты, вусныя экзамены — гэта свайго роду латарэя, бо ацэнка ў нейкай ступені залежыць ад шчасця.

Калі 26 мая стала вядомым, што ўсе вучні паспяхова справіліся з вуснымі экзаменамі, можна было вярнуцца ўспамінамі да здарэнняў з мінулых гадоў. У час вусных экзаменаў па беларускай мове кожны вучань адказваў на тры пытанні, якія выцягнуў разам з экзаменацыйным білетам. Адно пытанне тычылася граматыкі, два апошнія — беларускай літаратуры, гісторыі, культуры, сям'і ліцэіста і яе традыцый, а таксама жыцця беларусаў у Польшчы і на эміграцыі.

— Мы звярталі ўвагу, каб вучні менш карысталіся энцыклапедычнымі весткамі, звязанымі з жыццём пісьменнікаў, а каб рабілі ўласныя аналізы, выказвалі свае думкі і меркаванні, — сказаў настаўнік беларускай мовы Янка Карчэўскі. — На гэты раз больш увагі адвялі мы сучаснай і эміграцыйнай літаратуры.

— Трэба сказаць, што падчас экзаменаў па беларускай мове вучні падрыхтаваны былі цудоўна. Вельмі добра карысталіся беларускай мовай, а іх веды па беларускай літаратуры і гісторыі таксама вельмі добрыя. Настаўнікі беларускай мовы працуюць з вучнямі вельмі ахвотна, таму так многа пяцёрак і шасцёрак, — хваліў сваіх вучняў і настаўнікаў дырэктар Яўген Сачко. — Сярэдняя ацэнак на экзаменах па беларускай літаратуры — 4,13.

Апошняе спатканне абітурыентаў са сваімі малодшымі сябрамі, настаўнікамі і школай адбылося ў вялікай спартыўнай зале. Прыйшлі і бацькі выпускнікоў.

— Вы павінны быць апосталамі беларускай мовы і культуры, калі разыдзецеся ў розныя бакі, — звярнуўся да моладзі настаяцель прыхода Святой Тройцы айцец Міхаіл Негярэвіч. — А словы Якуба Коласа пра родны кут павінны напамінаць заўсёды адкуль вы выйшлі.

Прадстаўнік выпускнікоў Тамаш Саевіч успомніў пра гады, якія разам са сваімі сябрамі і сяброўкамі правёў у Гайнаўскім белліцэі. Спаслаўся ён на моманты, якія застануцца незабыўнымі (неафіцыйныя сустрэчы, выезды, супольныя гульні).

[працяг ☞ 5]



*Мітрапаліт Сава ў атачэнні іерархаў нашай Царквы.* Фота Пятра ХОМІКА

# Узвядзенне на прастол мітрапаліта Савы

Пасля смерці мітрапаліта Васілія Сабор Епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Польшчы вызначыў архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Саву кіраваць справамі Варшаўскай мітраполіі. Сабор Епіскапаў выбраў таксама трох новых епіскапаў: Гайнаўскага — Мірана, Супрасльскага — Іакава і Бельскага — Грыгорыя, якіх хіратоніі адбыліся 10, 11 і 12 мая г.г.

Пасля хіратоніі новых епіскапаў Сабор ПАПЦ у Варшаве мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы выбраў архіепіскапа Саву. Адначасова Сабор дазволіў новаму мітрапаліту кіраваць справамі Беластоцка-Гданьскай епархіі на працягу года.

31 мая 1998 года варшаўскі сабор св. Роўнаапостальнай Марыі Магдаліны стаў месцам урачыстага ўзвядзення на прастол мітрапаліта Савы. Урачыстасць пачалася ў 9 гадзін прысваеннем архіепіскаму Саве звання мітрапаліта і прыняццём новым першаіерархам нашай Царквы сімвалаў мітрапалічай улады: белага клабука і падвойнай панагіі.

Пасля гэтага новы мітрапаліт адправіў Літургію ў саслужэнні іерархаў нашай Царквы: архіепіскапаў Сімана, Іераміі, Адама ды епіскапаў Авеля, Мірана, Іакава і Грыгорыя. На ўрачыстасці былі прысутны прадстаўнікі Канстанцінопальскага, Іерусалімскага, Александрыйскага, Антыёхскага, Маскоўскага, Сербскага, Балгарскага, Румынскага патрыярхатаў ды памесных Цэркваў: албанскай (мітрапаліт), чэшскай (мітрапаліт), кіпрыйскай, грэчаскай, фінскай, беларускай і амерыканскай. Прыехалі таксама дэлегацыі духавенства і вернікаў з усіх праваслаўных епархіяў нашай краіны.

З запрошаных шматлікіх гасцей віншавалі мітрапаліта Саву між іншым: міністр Канцылярыі прэзідэнта Польшчы Ян Унгер, прадстаўнік прэм'ер-міністра, міністр Веслаў Валендзяк, прадстаўнік міністра абароны, віцэ-міністр Рамуальд Шарамецеў, амбасадары і іншыя афіцыйныя асобы. Усім удзельнікам урачыстасці найбольш цікавым было паслухаць выступленне новага мітрапаліта. Ён сказаў, што будзе развіваць усе галіны царкоўнага жыцця і не будзе баяцца другога чалавека, калі справа ідзе пра дабро Царквы. Мітрапаліт Сава падкрэсліў, што Царква будзе адкрыта на нацыянальныя культуры і абраднасці. На першым месцы была ім пераличана беларуская меншасць — гэта важнае, калі ўлічыць факт, што найбольш вернікаў Праваслаўнай Царквы складаюць беларусы. Мітрапаліт адначасова сказаў, што вернікі і духавенства павінны ведаць хто ёсць іх пастыр.

Адзіным недахопам урачыстасці было тое, што не надта многа з'явілася праваслаўных з самой Варшавы. Страх падумаць, як выглядала б урачыстасць, калі б не даехалі вернікі з Беластока. Факт гэты паказвае, што Беласток з'яўляецца сталіцай праваслаўя, хаця мітрапаліт мае сваю рэзідэнцыю ў Варшаве. Мітрапаліту Саве трэба пажадаць многа здароўя і шчасця ў ягоных намерах адрадзіць рэлігійнае жыццё сярод варшаўскіх праваслаўных.

Антон Мірановіч

## Конкурс, узнагароды...

Рэдакцыя „Нівы" праводзіць конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Нівы" на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі.

[дэталі ☞ 11]

## Рабочы едзе „Паланезам"

Назваць наш праваслаўны беластоцкі люд беларускім — чысты здзек над яго пачуццямі. „Наш люд", аднак, не ставіцца варожа да беларускай культуры так як каталіцкі. Ён не вораг ніякай культуры — ні польскай, ні рускай, ні ўкраінскай. Кожную з іх успрымае як вельмі сабе блізкую, хаця ніводнай не лічыць сваёй духоўнай прасторай. Хацелі б „нашы" быць палякамі, але перашкаджае „руская вера".

[фельетон ☞ 4]

## Па слядах Яна Тарасевіча

Рамантычна-ўзнёслая музыка Яна Тарасевіча сугучная краявідам Сакольшчыны. Гэтую залежнасць найбольш адчуваем у Шындзелі. Тут людзі памятаюць кампазітара. Пытаем пра двор Тарасевіча. — Няма ўжо двара. Раней, нейкіх восем гадоў назад, ліпы старыя яшчэ раслі. Парэзалі іх, поле заралі, абсеялі. Хату і будынкі яшчэ за саветаў вывезлі.

[рэпартаж ☞ 8]

## Уля, унучка Васілёва

Светлавалосай Улі Астаневіч з Ломжы, унучцы Васіля Петручука — васемнаццаць гадоў. Ежы Гофман, рэжысёр „Агнём і мячом", запрапанаваў ёй выступіць у сцэне украінскага вяселля. Цешыцца з гэтай Улінай прыгоды таксама і дзед. Праўда, не думае, так як і ўнучка, што чакае яе кар'ера вядомай у свеце Ізабелы Скарупка, родам таксама з Беласточчыны.

[артыкул ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

Чужым уваход забаронены

## Палацы для прэзідэнта

**Неўзабаве ў беларускага прэзідэнта з'явяцца дзве новыя рэзідэнцыі. Размяшчацца яны будуць на былых дачах вядомага партыйнага дзеяча Машэрава і выдатнага савецкага маршала Цімашэнкі. Першая знаходзіцца на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка, другая — пад Мінскам. Яна, хутчэй за ўсё, стане новай прэзідэнцкай рэзідэнцыяй — замест цяперашняй у Драздах.**

**Дом**

Як ужо паведамлялася, у бліжэйшы час Аляксандру Лукашэнку прыйдзецца пакінуць абжытыя Дразды. Прычынай пераезду, паводле афіцыйнай інфармацыі, з'яўляецца неабходнасць рамонту камунікацый. (...) Сам Аляксандр Лукашэнка, аднак, у душным горадзе жыць не пажадаў. Відаць, не прывык. Таму, калі для кіраўніка дзяржавы пачалі шукаць новае прыстанішча, былая дача маршала Цімашэнкі аказалася зусім даспадобы. Да вясны 1995 года яна належала Міністэрству абароны. Пазней, як і многія іншыя памяшканні, была перададзена на баланс Упраўлення справамі прэзідэнта. Аляксандр Лукашэнка зойме яе ў канцы мая.

Цяжка сказаць, ці кіраўніку дзяржавы будзе тут лепш. Пабываць у прэзідэнцкай рэзідэнцыі ў Драздах нам ні разу не давялося. Але экс-рэзідэнцыя маршала ўражвае. У першую чаргу сваімі памерамі. Два параўнальна невялікія двухпавярховыя домікі, у адным з якіх будзе жыць прэзідэнт, проста прападаюць на аграмаднай тэрыторыі комплекса. Калі прэзідэнт не заблудзіцца ў густым лесе, яму будзе дзе пахадзіць, раздумваючы аб справах дзяржаўнай важнасці. А калі пешыя прагулкі знудзяцца, ён зможа пакупацца або лавіць рыбу ў любым з чатырох распаложаных на тэрыторыі рэзідэнцыі азёр. А ў выпадку небяспекі Аляксандр Лукашэнка зможа схавацца ў адным з падземных бункераў. Ваенныя, як вядома, адчуваюць да іх слабасць, таму ў маршала Цімашэнкі бункераў было многа. Колькі дакладна — сказаць цяжка. Але па меншай меры тры ўваходы пад зямлю можна знайсці без клопату. Парослыя лесам штучныя пагоркі гэтых бункераў выглядаюць зусім маляўніча. Мае, праўда, дача Цімашэнкі адзін вялікі недахоп. Вядома, што прэзідэнт любіць займацца спортам. Між іншым у яго новай сядзібе няма не толькі спартыўнай плашчадкі, але і нават звычайнага тэніснага корта.

Аб будучым з'яўленні на аб'екце Аляксандра Лукашэнкі прадвяшчае таблічка з грозным надпісам: „Чужым уваход забаронены. Тэрыторыя ахоўваецца спецыяльным атрадам міліцыі". Поўным махам ідзе падрыхтоўка да спаткання высокапастаўленага жыльца і ўнутры комплекса. З часоў маршала Цімашэнкі на дачы вельмі многае зрабілася непрыгодным і патрабуе рамонту. У першую чаргу гэта тычыцца, канешне, жылых памяшканняў. Работы па ўнутранай і вонкавай апрацоўцы дома знаходзяцца, падобна, у пачатковай стадыі. Жыць тут, пакуль, немагчыма. Завершаны толькі рамонт ванных пакояў у адным з дамоў. Рабочыя, зрэшты, заяўляюць, што за тыдзень яны справяцца і з усім астатнім.

Гэтае ж можна сказаць і аб вонкавым выглядзе прылягаючай да прэзідэнцкага жылля тэрыторыі. Работы тут вядуцца не менш паспешліва. Брыгады рабочых нанава мосцяць дарожкі, выраўноўваюць і ўмацоўваюць берагі азёраў, мяняюць асфальт, падрэзваюць дрэвы. Уздоўж агароджы рэзідэнцыі ўзвод салдат ачышчвае тэрыторыю ад лішняй расліннасці, працей кажучы, высякае дрэвы. (...)

**Дача**

Апрача рэзідэнцыі, кіраўнік дзяржавы ў бліжэйшы час намераны абзавесціся і новай дачай. Прыблізна год таму пачаліся актыўныя рамонтна-рэстаўрацыйныя работы на былой дачы Пятра Машэрава, распаложанай на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка. Мы наведалі гэты комплекс таму, каб на месцы высветліць, што менавіта тут будуецца. Нам здалося дзіўным, што прэзідэнту ў дадатак да рэзідэнцыі пад Мінскам і яшчэ дзвюх — у Белавежскай пушчы і на Нарачы — спадабалася дача Машэрава.

Выглядае яна, дарэчы, вельмі скромна. Па-першае, тэрыторыя комплексу ў Бярэзінскім запаведніку на многа разоў меншая. Па-другое, тут толькі адзін жылы дом. Па-трэцяе, работы па рэстаўрацыі вядуцца са значна меншым размахам. Урэшце, на аб'екце практычна няма аховы. Нават таблічка, якая вісіць на пад'ездзе да дачы, выглядае не надта грозна і забараняе толькі ўезд на аўтамабілях. Наконт тых, хто любіць хадзіць пешшу, на ёй нічога не сказана.

Усё гэта, зрэшты, даецца растлумачыць і апраўдаць. У рэшце рэшт, на дачы Цімашэнкі Аляксандр Лукашэнка будзе жыць. У Бярэзінскі ж запаведнік, калі там сапраўды будуюць дачу для прэзідэнта, ён будзе толькі наязджаць. Дача Цімашэнкі будзе домам, дача Машэрава — усяго толькі дачай. (...)

Тое, што падыходзіла першаму сакратару, не падыходзіць першаму прэзідэнту. Калі ў часы Машэрава дача не была агароджана, то цяпер тут прадугледжваецца пабудаваць вялікі паркан. На дарозе, якая вядзе да комплекса, ужо ўстаноўлены фундамент для кантрольна-прапускнога пункта. Той, для каго будуецца дача, будзе ступаць на зямлю запаведніка ўжо непасрэдна на яе тэрыторыі. Відаць, для таго, каб лішні раз не непакоіць мясцовых жыхароў, у самога КПП, за планаванай сцяной рэзідэнцыі, пабудавана верталётная пляцоўка. Адсюль аўтамабіль будзе дастаўляць гасцей да дому. (...)

І так, „турыстаў" будуць дастаўляць да месца адпачынку на верталётах, а ад нежаданых сустрэч іх адгародзіць надзейная сцяна і надзейная ахова. (...)

**Андрэй Махоўскі**

*Свабода, № 57, 20.05.1998 г.*

# Дзве Беларусі

Пасля таго, як Лукашэнка разбурыў надзеі на хуткае нацыянальнае адраджэнне, у патрыятычна настроеных інтэлігенцкіх кругах Менска з'явілася тэорыя аб дзвюх паралельных Беларусях. Адна — наша, незалежная, беларускамоўная, бел-чырвона-белая, а другая — іхняя, саўковая, безнацыянальная, чырвона-зялёная. Тэорыя гэтая нечакана знайшла пацвярджэнне на сёлетнім Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

Паколькі фестываль міжнародны, дык падчас яго правядзення каля сабора Святой Тройцы, каля Гайнаўскага дома культуры і над вуліцамі горада вісяць сцягі краін-удзельніц фестывалю. Штогоду, як вядома, у фестывалі ўдзельнічаюць хоры з Беларусі. І штогоду арганізатары вывешваюць беларускі бел-чырвона-белы сцяг. Сёлета не спадабалася гэта саветніку пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве Уладзіміру Каральчуку. Маўляў, прыехалі да вас хоры не з тае Беларусі і вывешваючы сцяг іншай краіны вы нас ігнаруеце і абражаеце. У арганізатараў, аднак, іншага сцяга не было.

І тут беларуская дыпламатыя спрацавала. У Гайнаўку прывезлі чырвоназялёны сцяг, хаця і напалову меншы за астатнія. Ад гэтага моманту перад саборам Святой Тройцы віселі сцягі дзвюх Беларусяў: з аднаго боку белчырвона-белы, а з другога, адсунуты на прыстойную адлегласць і ўдвая меншы — чырвона-зялёны лукашэнкаўскай Рэспублікі Беларусь. **М. В.**

# Беларусь у Еўропу

Малады фронт распачаў актыўнае змаганне з рэжымам, патрабуючы спынення крымінальных спраў супраць усіх палітвязняў на Беларусі і адстаўкі прэзідэнта Лукашэнкі.

Маладыя людзі ўжо зараз распачалі актыўнае змаганне за свабоду Паўла Севярынца і Аляксея Шыдлоўскага. Кожны дзень па ўсёй краіне моладзь збірае подпісы ў падтрымку палітвязняў, праводзіць масавыя акцыі пратэсту, а таксама акцыі пад умоўным назовам „Горад — наш!", за ноч замяняючы „афіцыйную" сімволіку на нацыянальную і вывешваючы бел-чырвона-белыя сцягі на самых відных і высокіх месцах. Такія акцыі прайшлі ў многіх гарадах Беларусі. Менавіта за правядзенне такіх акцый і былі арыштаваны Вадзім Лабковіч і Аляксей Шыдлоўскі.

Як вядома, пасля ўсіх дэманстрацый, міліцыі падабаецца забіраць сябраў менавіта „Маладога Фронту", таму адзін з яго лідэраў Яўген Скочка сцвярджае, што арышты сябраў МФ — гэта не першая спроба ўладаў расправіцца з прадстаўнікамі маладой апазіцыі. „Зараз, калі Павел Севярынец сядзіць на „Валадарцы", Малады фронт правядзе шэраг акцыяў у яго абарону. Альбо ўлады адпусцяць П. Севярынца і іншых палітвязняў, альбо яны атрымаюць тое, што „заслугоўваюць", — зазначыў маладафронтаўскі актывіст.

Прэзідэнт Беларусі некалі сказаў: „Я свой народ за цывілізаваным светам не павяду..." Моладзь адказала тады на гэта клічам: „Беларусь — у Еўропу..." ды распачала змаганне за сваю будучыню, якое працягваецца і цяпер.

**Ян Абадоўскі**

# Мы прачыталі

*Białystok jest jednym z najgęściej zaludnionych miast w Polsce. Nie z powodu wieżowców, których jest mało, a w ostatnich latach nie buduje się wcale. Jest zgęszczony, bo każdą wolną przestrzeń zabudowuje się blok przy bloku, domek przy domku. Władzom miejskim brakuje najmniejszej wyobraźni i wizji jakie ma być miasto. Na Nowym Mieście miało być przestrzennie, nowocześnie i czysto. Tak zaczęto tworzyć osiedle u zbiegu Wiejskiej i Pogodnej. Dziś buduje się tam gęsto blok przy bloku, wystąpiło zgęszczenie ponad wszelką miarę, ponad zdrowy rozsądek. Milczą architekci, bo nowe bloki to kolejne zamówienia. Milczą urbaniści, bo czy są jeszcze tacy w Białymstoku? Milczą ekolodzy. Radni dostają kłamliwe informacje, bełkotliwe ekspertyzy i uchwalają to co podsunie im zarząd miasta.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 121*

* * *

*Беларуская мова стала сымбалем савецкай калабарацыі. Яна з усімі яе камісараўскімі праваніснымі рэформамі пераўтварылася ў зьяву, якая ў прынцыпе не можа выклікаць сымпатыяў, а тым больш выхоўваць уласных абаронцаў. Падзякаваць за гэта мы мусім найперш закормленаму ў савецкія часы беларускаму пісьменьніцкаму цэху, калабаранцкай арганізацыі, якая стварыла калабаранцкую літаратуру. Сёньня іхнюю ролю з посьпехам працягваюць білінгвістычныя апазыцыйныя газеты і незалежныя выдавецкія прадпрыемствы.*

*Наша ніва, н-р 9*

* * *

*W Polsce rocznie popełnianych jest 1 200 zabójstw. 10 lat temu, w 1988 r., popełniono 530 morderstw. Czy z tej statystyki wynika, że społeczeństwo degeneruje się? Psycholodzy podkreślają fatalne znaczenie dla psychiki, głównie ludzi młodych, szerzonej przez media apologii zła. W programach telewizyjnych przeważają tanie amerykańskie filmy, gdzie zbrodnia pokazywana jest jako najskuteczniejsza metoda załatwiania sporów w tamtejszym społeczeństwie. Śmierć na ekranie nie boli, nie ma złych konsekwencji. Młodzi telewidzowie przyswajają więc wnioski płynące z ekranu: zabić jest łatwo, lekko i przyjemnie.*

*Młodzi mordercy, których w Polsce jest coraz więcej, nieraz żałują tego co uczynili. Często jednak ta skrucha jest pozorna, okazywana tylko przed sądem, za radą adwokatów. Mnożą się natomiast przypadki zbrodni bezinteresownych, dokonywanych przez młodych ludzi. Ulubionym narzędziem takich sprawców jest kij bejsbolowy, którym tłucze się najczęściej przypadkową ofiarę bez opamiętania. Padają pytania: skąd ten sadyzm, skąd bestialstwo? Psycholodzy odpowiadają: młodym mordercom udziela się agresja kumulująca się w całym społeczeństwie.*

*Polityka, nr 21*

* * *

*Nikita Siergiejewicz Chruszczow zapowiedział, że Związek Radziecki w 1980 r. dogoni, przegoni Amerykę. Obliczył także, że w tym samym roku w jego kraju nastanie komunizm, a życie będzie takie jak w raju: skrócony tydzień pracy, mieszkanie dla każdej rodziny, czynsze zniesione, bezpłatna komunikacja, bezpłatne lekarstwa, stołówki, przedszkola, odzież i pomoce szkolne. W przypływie dobrego humoru Chruszczow podarował Ukrainie Krym, a Czeczenii dwa obwody kozackie na lewym brzegu Tereku. Hojność I sekretarza KC KPZR była wprost proporcjonalna do ilości wypitych trunków. Rosjanie obecnie wspominają ją słowami nie nadającymi się do druku.*

*Gazeta — Magazyn, nr 21*

# Амбулаторыі для душы

**Наш час характарызуецца перанасяленнем, паскоранымі тэмпамі жыцця і адчужэннем адначасна. Супрацьстаяць гэтаму масіраванаму нашэсцю цывілізацыі можна шляхам дарагога снабісцкага адпачынку на загубленых сярод антыподных акіянаў бязлюдных астравах. Але і на бязлюддзі ўсходняй нашай сцяны можна і скрыць ужо, і раскрыць яшчэ душу...**

Падаўся я ў свае роднае наваколле прасачыць, як тамака працякае грамадскае жыццё. А на вёсцы тое грамадскае жыццё засяроджваецца галоўным чынам у крамах і побач іх, дзе каго знаёмага спаткаць можна і хвіліну з ім пагутарыць.

Заглянуў я напачатак у краму ў Новым Ляўкове. Апрача прадаўшчыцы — ні душы! Пасярэдзіне крамы скрынкі з півам — акуратны знак нядаўняй дастаўкі. На паліцах, сярод іншых прадуктаў, таксама віно і гарэлка. Распытваю, ці не рызыкоўна трымаць такі тавар на такім адлюдным месцы, пры расстайных дарогах. У адказ даведваюся, што пра гэта выраашае начальства — праўленне ГСу ў Нараўцы.

— Ды і калі б я ад чаго адказалася, дык людзі перасталі б прыходзіць...

А пакупнікі і так рэдка ў краму заглядаюць, бо не хочацца далей ад хатаў хадзіць, калі крамнікі на самаходах пад самую хату тавар прывязуць. Час ад часу вечарамі, калі крама ўжо закрыта, збіраецца побач моладзь, каб далей ад дарослага нагляду весялей скараталь час.

У прыватнай краме ў Старым Ляўкове, якую тут называюць „Пэвэксам", — ні аднаго наведвальніка, хаця раней „дзяжурыла" за сталом перад крамаю прынамсі па некалькі асобаў.

— Мо ў полі працуюць, — адказвае мой школьны знаёмы на маё зацікаўленне прычынамі апатыі ляўкоўцаў.

Сам ён вядзе гаспадарку, трымае дабытак.

— Няма цяпер ніякага даходу з гаспадаркі, — наракае, цяжка што-небудзь прадаць. Новыя, высокія нормы на малако ўстанавілі, каб яшчэ цяжэй было. Патрабаванні еўрапейскія, а цэны тутэйшыя. Яшчэ і ўсходнюю граніцу Захад запірае, каб нас сваімі таварамі дашчэнту прыдушыць...

У Лешуках на сходках у краму традыцыйна сядзіць некалькі чалавек, цяпер ужо новае пакаленне, якое папівае піўцо. У краму прыходзяць дзве жанчыны, адна з іх была ў тутэйшай, нядаўна закрытай школе настаўніцай; распытваю яе пра лёс школьнага будынка і дзяцей.

— Школу гміна хоча прадаць, — заміж яе раскрывае мне гмінныя сакрэты другая жанчына, — спярша хацелі мільярд, пазней палову мільярда, а цяпер чвэрць хочуць. І пэўна так будзе, што нехта з гміны і так палову сабе возьме. А пляц жа наш, вясковы!

— У гарадах, — кажа настаўніца, — людзі пасылаюць сваіх дзяцей у платныя грамадскія школы, бо там дзяцей у класе менш і настаўнік можа заняцца кожным вучнем індывідуальна; і так было ў нас. Цяпер у школе ў Нараўцы, куды возяць ляшуцкіх дзяцей, чатырыста вучняў; хто імі так зоймецца? Але нас пра закрыццё школы ніхто не пытаў, бо яна быццам стала нерэнтабельнай. Ацяпленне нашага школьнага будынка каштавала сорак пяць мільёнаў, тады калі давоз дзяцей каштуе трыста. Апошнія гады гміна не давала ўжо грошай на ўтрыманне будынка і неабходныя працы мы выконвалі самі. А на заканчэнне працы школы ніхто з гміны не наведаў нас, не сказаў хаця слова... Зрабілі пацыху, быццам што ўкраўшы. А яны, здавалася, свае людзі...

У Новай Луцэ крама прыватная, у падвале асабняка. Пытаю прадаўшчыцу, ці многа пакупнікоў прыходзіць у яе краму.

— Зімою мала: у вёсцы мала гаспадароў, але прыходзяць са Слабодкі, з Лешукоў... У разгар сезона ў Новую Луку з'язджаюцца адпачывальнікі з Гданьска, Шчэціна, немцы... Багатыя людзі прыязджаюць сюды: суддзі, адвакаты, урачы, паліцэйскія, *клявішы*... Нават адзін бізнесмен з Гродна катэдж тут сабе збудаваў. А ўсіх катэджаў каля васьмідзесяці; і яшчэ падаюць заяўкі на падключэнне электраэнергіі. Такі нібы *домэк летніскові*, а жывуць у ім па пяць сем'яў! Абы-чаго не купляюць: дарагія белыя гарэлкі, дарагое віно — толькі якасныя прадукты! Днямі спяць, а вечарамі п'юць. Тады і муж стае на працу дапамагаць мне, а выхадныя нядзелі будуць у мяне аж у верасні, калі параз'язджаюцца.




*Тут была тарнапальская крама.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

— Ці з гэтага боку вадасховішча ёсць нейкія пляжы? — цікаўлюся магчымасцю адпачынку.

— Не ведаю, хаця я сама з Лукі, бо калі з сям'ёй адпачываем над вадою, дык на Рудні: туды нам з Бандароў, дзе жывем, зручней.

Прыйшлося самому ехаць, каб пабачыць той лучанскі бераг. Заехаў я на месца, дзе калісь стаяла школа. Уцалела адна хата, на канцы вёскі. А калісь жа ў наваколлі гаварылі на Луку „Хіны" (Кітай), бо мнагалюдная яна была; па тры хаты на панадворку стаяла. А цяпер усюды дзірван, толькі даўняя вуліца яшчэ святлее, бо так тыя „хіны" яе ўтрамбавалі, што ніякае зелле не можа там укараніцца. Дваццаць метраў ад вуліцы — вада. Дзве легкавушкі прывезлі вудзільшчыкаў. На вадзе невялікі прыбой, на травяністым беразе ляжыць некалькі лодак; пляжаў тут яшчэ няма. А ў пакінутых прысаддзях птушкі даюць нікім не перабіваемы канцэрт — свята вясны!

Далей падаўся я дарогаю, што калісь вяла з Лукі ў Семяноўку. У Тарнопалі стаіць былая ГСаўская крама, разбураная нейкімі вандаламі. Калісь па ўсёй Гайнаўшчыне, дзякуючы энтузіязму Канстанціна Майсені і грамадскай працы вяскоўцаў, выраслі дзесяткі такіх аб'ектаў. У тарнопальскай цяпер ад вакон і дзвярэй толькі голыя праёмы, на падлозе поўна друзу. А навокал абгароджаныя пад катэджы ўчасткі. Далей дарога абрываецца ў возера. Знаходжу другую дарогу, насыпаную не зарослым яшчэ травою жвірам, ды і тая абрываецца ў вадзе...

Урэшце дабіраюся да асфальтоўкі; пры ёй вясковы клуб, а ў ім крама, а там прадавец і яшчэ два мужчыны. Пытаю пра зруйнаваную краму.

— Далёка ад шашы была, — адказваюць. — Калі задувала снегам, тавар трэба было пяшком насіць. Калі тут паставілі клуб, тады ГС сюды і краму перанёс, але нерэнтабельная яна была ГСу і цяпер перайшла ў прыватнае ўладанне. А старую краму то хацелі прадаць, то не хацелі. Краты з вокнаў нехта павыдзіраў, нават паркет нехта хацеў вырваць, але на цэмент ён кладзены, і толькі друзу нарабілася.

У краме на семяноўскім чыгуначным прыпынку таксама прадукты для цела і для душы; адзін мужчына выпівае піва, а жанчына прыйшла пагутарыць з прадаўшчыцай. На пероне пуста. На рэйках стаяць таварныя саставы. Прыязджае пасажырскі цягнік з Цісоўкі: лакаматыў „стонка" цягне адзін вагон, у вагоне кандуктарка і двух пасажыраў; у Семяноўцы падсядае трэці. Траіх працаўнікоў чыгункі павезлі цягнікам траіх пасажыраў. Рай!

Недалёка прыпынку выпіўны бар „Rondo". Навокал не відаць слядоў жывой душы. Абыходжу гастранамічны аб'ект. Паяўляецца сабака, які цікаўна таўчэ мяне намордкам па нагах; не брэша. Уваходжу ў сярэдзіну. Більярдны стол і два сталы бяседныя; за прылаўкам — нікога. Сабака дабіваецца ў дзверы, праз некалькі хвілін паяўляецца барменка.

— Ад вас можна ўсё павыносіць, — кажу.

— О не, мы ўсё бачым, — пярэчыць мне.

— У вас заўсёды так „людна"? — пытаю.

— Так. Толькі па суботах тут ладзім дыскатэку, і тады народу многа.

У адной з першых хат Семяноўкі бар „Super Relax", які для суперрэлаксацыі прапануе *piwo kuflowe, wódki, wino, wędliny, artykuły spożywcze*. Усярэдзіне камерны настрой, два мужчыны папіваюць піўцо, за сталом на двары чарговыя два паліваюць віно „Szwejk".

Непадалёк школы невялікая ГСаўская крама, пабудаваная ў постмайсенеўы перыяд. Усярэдзіне каратаюць час дзве пажылыя жанчыны, у дзвярах стаіць малодшая, малады мужчына папівае піва, забягаюць дзеці са школы.

— Купіце нешта з верхняй полкі, — заахвочвае мяне прадаўшчыца, маючы на думцы развесяляльныя напоі.

— Каб якое біды нарабіць? — пытаю.

— То ксёндз або бацюшка заробіць, — адказваюць жанчыны.

— Ваш так вельмі не зарабляе, — звяртаю ім увагу.

— О! Такога як наш, то трэба пашукаць! — хваляць свайго бацюшку. Бо нялёгка знайсці такога, як у Семяноўцы, святара, якога паводзіны не ідуць уразрэз з прапаведаванай ім маральнаю навукай.

У Масеве пасярод крамы таксама кардонныя пакункі са спажываю для душы.

— Купляйце віно, свежанькае, толькі сёння прывезенае, — заахвочвае прадаўшчыца.

Ля крамы ў Альхоўцы, пры масіўным стале моўчкі сядзяць два мужчыны: адзін сядзіць прама, другі адхіліўшыся, быццам на якой „Тайнай вячэры". Чакаюць; можа хто прынясе нешта пагутарыць...

У Плянце дзве крамы: ГСаўская ўжо закрытая, а насупраць яе, у будынку па былой чатырохгодцы, працуе прыватная. Некаторыя пачыналі тут свае грамадскае жыццё, ды прыходзіцца ім яго тут і прадаўжаць. Пры абедзвюх крамах бяседныя сталы. Заходжу ў будынак былой школы. Перад прадаўшчыцаю калываецца мужчына гадоў трыццаці-сарака:

— Ну! — настойвае ён на прадаўшчыцу.

— Не дам! — рашуча адказвае яна. Відаць, сасмаглы ў горле і кішэнях спажывец хоча ўзяць яшчэ на запіску, аднак яго ліміт на такі род нашых тут банкаўскіх паслугаў, мусіць, ужо выкарыстаны да апошняга граша. Тры іншыя мужчыны выходзяць з крамы і, ганяючы гусей, прычальваюць да стала, на якім паяўляецца віно „Żubr" і пластмасавы кубак.

У адной з наведаных мною крамаў, калі я ўвайшоў, стаялі смірна мужчыны, быццам у пачэсным ваенным караўле, вырачыўшы ў мой бок вочы. Калі толькі пазналі мяне, уміг з прылаўка, які сабою закрывалі, адзін з іх схапіў напоўненую раней чарку, а другі баначку з селядцамі ў маянэзе, і акружылі мяне:

— Выпі!

Як, каб не нашы вясковыя крамы, нашы людзі гаілі б свае знямоглыя душы? А пра душу трэба дбаць, бо яна ж — вечная!

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



*Тут была лучанская школа.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Nie przeszkadzaj!

Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы — найбольшае і найважнейшае культурнае мерапрыемства на Беласточчыне. Мікалай Бушко падняў яго на незвычайна высокі ўзровень і прыдбаў яму сапраўды міжнародны ранг. На такой падзеі не мае права быць ніводнай, нават найменшай плямкі, найтанчэйшай драпіны. Шкада, проста, фестывалю на тое, каб у кагосьці застаўся ад яго нейкі асадак незадавальнення ці прыкрасці. Прыязджаюць жа ў Гайнаўку людзі амаль з усяго свету і вывозяць адсюль не халодны аналіз мастацкіх вартасцей мерапрыемства, а ўражанні.

А якія ўражанні можа павезці ад нас хор, які атрымаў не надта ветлівага апекуна? Калі гэты апякун не разумее, што яго роля не ў тым, каб трымаць гасцей у купе, пакрыкваць на іх, падганяць ды яшчэ павучаць іх: *Вы сабе не думайце, гэта не якаясьці ваша задрыпаная краіна, а Польшча. Тут трэба паводзіць сябе культурна!* Яго абавязак вельмі мала складаны: служыць усялякай магчымай дапамогай і парадай гасцям, прычым заўсёды з усмешкай на твары. І нават на самыя бязглуздыя патрабаванні павінен з неадлучнай усмешкай адказваць: *Sorry. Гэта, на жаль, немагчыма, але я вам прапаную на тое месца вось што...*

Арганізатары могуць не спаць увесь тыдзень, але час для гасцей знайсці мусяць. Бо хоры ў Гайнаўку прыязджаюць не на тое, каб разбураць тутэйшае спакойнае жыццё. Яны — сэнс фестывалю!

Не варта таксама працаўнікам арганізацыйнага бюро кідаць журналісту: *Nie przeszkadzaj!* Прыехаў ён на фестываль не дзеля забавы і нават не на тое, каб увайсці без білета на канцэрт лаўрэатаў, а выконвае сваю працу. Без журналістаў фестываль хаця б узроўнем мог бы сягнуць самога неба, усё роўна заставаўся б адно лакальнай гайнаўскай з'явай.

Дырэктар Бушко павінен растлумачыць гэта сваім супрацоўнікам. Прычым нічога так не ўплывае на простага чалавека, як прыклад зверху, ад начальства.

Доктар Томас Бутрос Рафаэль, які прыязджаў на фестываль з хорам Копцкай царквы з Егіпта, пытаўся: *Ці ж ветлівасць так многа каштуе?*

**Мікола Ваўранюк**

# Рабочы едзе „Паланезам”

Нядаўна прыйшлося мне прысутнічаць у сумнай урачыстасці, якой заўсёды з'яўляюцца пахавіны кагосьці з сям'і. Але не на чыюсьці драму хацеў бы я звярнуць увагу чытачоў, а толькі на тое, аб чым гавораць сабе людзі, якія часта не бачыліся шмат гадоў. Большасць прысутных складалі сяляне з Заблудаўскай, Міхалоўскай, Бельскай, Кляшчэлеўскай гмінаў і іх нашчадкі, якія найчасцей з'яўляюцца цяпер жыхарамі Беластока. На маё здзіўленне, амаль усе размаўлялі паміж сабою на польскай мове, хаця ведалі, што ўсе яны праваслаўнага веравызнання. Падумалася мне: можа сам уезд у горад Беласток выклікае такі стан душы, што „наш чалавек” траціць пачуццё сваёй тоеснасці? Калі, аднак, загаварыць да яго на беларускай мове, на такой жа ён і адкажа табе. Значыць, у Беластоку ён аўтаматычна не забывае слоўніка, які спадарожнічаў яму з дня нараджэння, а толькі свядома яго адкідае. Не ад страху гэта робіць, бо не было нават такіх, якія крыва маглі б глядзець на гук беларускага слова. Іх дзеці яшчэ разумеюць бацькаўскую мову, унукі часам дадумоўваюцца аб чым гутарыць дзед ці баба.

Зразумела, назваць наш праваслаўны беластоцкі люд беларускім — гэта чысты здзек над яго пачуццямі, а таксама вызначэнне сябе невукам. „Наш люд” аднак не ставіцца варожа да беларускай культуры так як каталіцкі. Ён не з'яўляецца ворагам ніякай культуры — ні польскай, ні рускай, ні ўкраінскай. Кожную з іх успрымае як вельмі сабе блізкую, амаль сваю, хаця ніводнай не лічыць сваёй духоўнай прасторай. Хацелі б „нашы” быць палякамі, але да поўнай камфартабельнасці не дапускае іх „рускае” веравызнанне. Людзьмі ніякай іншай нацыянальнасці таксама не будуць з-за таго, што ні ў школе, ні дома, і ні ў якім іншым месцы няма ўплываў іншай канкурэнтнай культуры.

Традыцыйна ўжо падчас кожнай сустрэчы людзі наракаюць, што цяжка цяпер ім стала жыць і што раней усё было ўпарадкаванае, разумнае, тавары танныя, праца шукала чалавека. Бедныя дзеткі — напрыклад — вымушаны цяпер плаціць вялікія грошы за газ, ваду, электраэнергію, з гаспадаркі няма, як раней бывала, чаго падкінуць. Агульная канстатацыя: цяпер цяжка жыць стала. „Але, — заўважыў дзядзька родам з Тапалян, — навокал будуюцца дамы, на якія ў час нашай маладосці не маглі сабе дазволіць нават багатыя памешчыкі. А будуюць іх дзеці нашых суседзяў, якія не паканчалі нават ніякіх школ, толькі адкрылі пякарні, піўнушкі, раней гандлявалі доларамі, былі звычайнымі шаферамі. Цяпер амаль кожны рабочы едзе на вёску на сваім „Паланезе”. — „Так, толькі нам, мужыкам, заўсёды вецер у вочы. За літр малака плацяць ужо 40 грошаў, а за літр чыстай вады трэба нам заплаціць амаль 2 злоты, — звярнуў увагу селянін з-пад Бельска. — Кілаграм мяса ад гаспадара цяпер каштуе ніжэй 3 злоты, а ў краме 5-6 разоў даражэй. Што тут дзеецца? А можа, калі ўжо будзем у той Еўропе, тады нічога ўжо не трэба будзе рабіць? Усё нам прывязуць з Парыжа, толькі хто і чым за гэта плаціць будзе?” — „Не наракай, швагер, — адазваўся мешчанін у першым пакаленні. — У нашай вёсцы кожны, хто хацеў, набыў сабе трактар, кожны малодшы гаспадар таксама мае аўтамабіль. А тыя, што яшчэ маюць жонак і дзяцей, нават акуратныя дамы сабе пабудавалі. Зразумела, старым кавалерам і п'яніцам хапае дзедавых хатак”. — „Ну так”, — згодным хорам замармыталі пажылыя сяляне, а дзядзька Мікалай з Фальваркаў заўважыў: „Нават пры санацыі мы маглі жыць інакш. Трымалі 3-4 кані, але ў хаце мясілі гліну. Падлога чамусьці не надта была патрэбная, хаця маглі яе мець нават і тыя бяднейшыя сяляне. Мае дзеці пасеялі на сваім агародчыку ў Беластоку траву, замест пасадзіць бульбу ці агародніну. Гавораць, што гэтага на базары хапае. Прыгожа выглядае панадворак, але неяк ненармальна, распусна”.

Калі б чалавек з'явіўся тут з нейкай іншай краіны, так і не даведаўся б, ці сапраўды цяпер стала горш жыць чым пры „развітым сацыялізме”. З аднаго боку выступае ў людзей выразнае пачуццё крыўды, з другога — пералік зменаў, якія пярэчаць таму, што ўсё памяталася на горшае. Напэўна новы парадак, які нарадзіўся пару гадоў таму, стаў менш зразумелы чым папярэдні. Ну бо хто зразумее, якім чынам дробны чыноўнік, які афіцыйна зарабляе 700 злотых купляе сабе аўтамабіль за 70 тысяч, лекар, які за месяц працы атрымлівае 800 зл., будуе сабе дом вартасцю ў 400 тысяч зл. З другога боку жывуць людзі, якія выконваюць такія самыя прафесіі, працуюць два разы больш і не ў змозе набыць нават веласіпед. Той, хто праверў большасць жыцця пры сацыялізме ўжо не зразумее новага парадку, не назве яго лепшым і справядлівым.

**Яўген Мірановіч**

# У калгасе „Калантаі”

Харысты з калгаса, што ў вёсцы Калантаі непадалёк Валкавыска на XVII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі трапілі дзякуючы свайму настаяцелю, айцу Леаніду Яўсюціну, які яшчэ раней прыязджаў з жыровіцкімі семінарыстамі.

— Наша парафія адрадзілася толькі ў 1997 годзе, — гаворыць харыстка Галіна Матвейчык, якая зараз на пенсіі. — У 1957 годзе, яшчэ пры Хрушчове, дадзены быў загад ліквідаваць наш прыход, але і не толькі. Начальнікі вырашылі, што трэба пачынаць ад царквы. Паколькі ніхто з жыхароў не хацеў разбураць святыню, разбіваць купалы, палезлі на царкву старшыня калгаса і працаўнік раёна. А ў той час нельга было нічога і сказаць, дык наш прыход далучылі да Валкавыска.

— Тыя, што разбуралі, тыя зараз і адбудоўвалі царкву. Маю на думцы начальства калгаса ў агульным, не канкрэтныя асобы, — уключаецца ў размову пажылы харыст. — Царкоўныя ўлады сказалі нам, што пакуль не адбудуем святыню, бацюшку нам не назначаць. Мы толькі ў 1996 годзе закончылі адбудову разбуранай царквы і цяпер у нас свая парафія.

— Маладых зараз мала ў калгасе, а і тыя хадзіць у царкву не вельмі ахвотны, — расказвае маладая харыстка. — Духовасці людзей не зменіш за некалькі гадоў, а жыццё цяжкае. Цяжка знайсці працу па вёсках, а зарплаты марныя. Пасля дзевяностых гадоў хоць свабода была, а зараз сочаць адзін за другім.

На маё пытанне пра мову, харыстка адказвае, што на беларускай мове размаўляюць толькі старэнькія бабулі, а і яны не заўсёды. Астатнія гутараць на мове падобнай на рускую.

— Даўней, калі малады чалавек наведваў царкву, мог адразу закончыць вучобу і патраціць працу. Многія, хаця належалі да партыі (КПСС), тайком хрысцілі дзяцей дома, — расказвае Галіна Матвейчык, — і якраз гэтыя маладыя пачынаюць прыходзіць у царкву. Думаю, што паволі колькасць маладых, якія наведваюць нашы храмы, будзе павялічвацца. Патрэбнае ж духовае адраджэнне народа.

**(ам-з)**

# Дзецям — летні адпачынак!

**Набліжаюцца канікулы — час летняга адпачынку. Аб тым, ці пакарыстаюцца ім дзеці з маламаёмасных сем'яў з Леанардай РАВІЦКАЙ — супрацоўніцай праўлення Таварыства прыяцеляў дзяцей у Беластоку гутарыць Міхал Мінцэвіч.**

***— Ці ТПД мае грошы на правядзенне акцыі летняга адпачынку для найбяднейшых дзяцей?***

— Я і мая загадчыца з'яўляемся работнікамі Гарадскога аддзела ТПД. Пасля адыходу супрацоўнікаў Ваяводскага праўлення мы пераняді ўсю дакументацыю. Цяпер усю дзейнасць вядзем мы толькі ўдваіх на грамадскіх пачатках. ТПД не мае грошай — не маем дзяржаўнай датацыі, а наш бюджэт складаюць сціплыя складчыны. Раней, пры камуне, ТПД датавалася дзяржавай.

***— Ці такое бядотнае становішча не пагражае роспускам вашай арганізацыі?***

— Сціплыя фінансавыя сродкі атрымоўваем ад збору ахвяраванняў, дабрачынных мерапрыемстваў, латарэяў. Пастаянна вядзем пошукі спонсараў і хаця іх мала, аднак трэба сказаць, што добрыя людзі яшчэ не звяліся. Дапамагаюць нам таксама грамадскія дзеячы. Мяркую, што так хутка ТПД не прападзе.

***— Як на практыцы выглядае ваша дзейнасць?***

— Дзецям з маламаёмасных сем'яў у час зімніх і летніх канікулаў арганізуем адпачынак, праводзім збор паношанай вопраткі, якую раздаем найбольш патрабуючым, даем фінансавую дапамогу ў неабходных выпадках. Наша арганізацыя вядзе сямейную кансультацыю ў Беластоку, а парады ў ёй даюць спецыялісты: псіхолаг, юрыст, педагог і псіхіятр.

***— Дзе адпачываюць вашы падапечныя?***

— У нас два адпачынковыя цэнтры — у Вознай-Всі каля Райграда і Млыне-Мыслюўцы ля Кнышына, у якіх арганізуем лагеры адпачынку. У гарадзе ладзім г.зв. паўкалёніі. Раней арганізавалі мы турыстычныя паходы па краіне, але цяпер адмовіліся з-за фінансавых прычын. Трэба сказаць, што дзякуючы нашай дзейнасці і ахвярнасці спонсараў дзеці з бедных сем'яў маюць магчымасць выехаць па-за сваю мясцовасць, пабачыць іншыя куткі краіны і такія паездкі надоўга застаюцца ў дзіцячай памяці. Колькі дзяцей пакарыстаецца арганізаванымі намі формамі адпачынку будзе вядома пад канец чэрвеня. Цяпер збіраем заяўкі з усяго ваяводства.

***— У самім цэнтры Орлі стаіць апусцелы кіёск ТПД, які цяпер служыць для наклейвання плакатаў...***

— Гэты кіёск сапраўды з'яўляецца ўласнасцю Ваяводскага праўлення ТПД. Цяпер няма ў нас грошай, каб яго адрамантаваць і наладзіць у ім продаж, напрыклад, сувеніраў.

***— Дзякую за размову.***

* * *

У Орлі, так як і ў мінулых гадах, старшыня Гміннага гуртка ТПД медсястра Ірэна Рэнгайла 1 жніўня з 25 дзяцьмі са школ з Орлі, Малінікаў і Крынак выедзе на двухтыднёвы адпачынак у Блажаеўск, што ў Познаньскім ваяводстве. Спонсарамі гэтага мерапрыемства з'яўляюцца жыхарка Познані Бернадэта Лішчыньска і адзін багаты грамадзянін Галандыі, а транспарт дае Гмінная ўправа ў Орлі.

Нявырашанай справай застаецца сам кіёск — ніводная гмінная фірма не хоча яго дармова аднавіць. Можа пасля гэтай публікацыі нехта праявіць цікавасць да абдзертага кіёска ТПД, бо ўсё-такі ўсе дзеці — нашы.

Міхась Андрасюк

# Крах

— 2 —

*(працяг;*
*пачатак у папярэднім нумары)*

У пятніцу, з самай раніцы інжынер Кашалюк спытаў:

— Пане Владку, калі добра ведаю, вы жывяце на кватэры адзін?

Я адказаў, што гэта праўда, жыву пакуль што адзін, аднак у недалёкай перспектыве планую заснаваць сям'ю. Такія словы ўцешылі інжынера і ён пытаў далей:

— А што вы думаеце рабіць у суботу вечарам?

Нішто асаблівае ў суботні вечар я не планаваў, так вось і сказаў:

— От, пачытаю кніжку, пагляджу тэлевізар, вядома, калі пакажуць нешта вартаснае. Хаця, самі ведаеце, у гэтых адносінах наша тэлебачанне...

У інжынера Кашалюка была аднак свая праблема і ён, не ступаючы на тэлевізійную сцежку, пачаў мяне з гэтай праблемай знаёміць.

— А не думалі вы паехаць у вёску, бацькоў наведаць, знаёмых пагледзець?

Я, праўду сказаўшы, не думаў пра такую магчымасць. Па-першае — дадатковыя кошты, а гэта абазначае затрымку ў рэалізацыі пункта н-р 4. Па-другое — пачаў якраз, ідучы за ўнушэннямі інжынера Стручука, засвойваць Фрэйда. Аўтар складаны і я прымушаны ўвесь свабодны час і ўвесь у тэхнікуме набыты інтэлектуальны патэнцыял накіраваць вось у той бок.

— Бо, ведаеце, ёсць такая справа, — інжынер Кашалюк з прыемнай усмешкай рэкамендуе свае бел-белыя зубы, а далікатнымі пальцамі гладзіць мой плячук, быццам стрэсваў з пінжака нейкі ўяўны там пылок. Я так і падумаў, што мой халасцяцкі гардэроб не спаўняе неабходнай нормы і мне стала ніякавата.

— У мяне вельмі-вельмі пільная праца. Такія там, хімічныя вылічэнні, дыяграмы. Вы, зрэшты, як работнік разумовай працы, самі ведаеце. А дома — разумееце — жонка, дзеці, безупынная мітусня і куламеса. Проста — галава не варыць.

У суботу я паехаў глядзець бацькоў, а інжынер Кашалюк у маёй кватэры да белай раніцы рысаваў дыяграмы і праводзіў складаныя хімічныя рахункі.

Мой план далёкага дзеяння спыніўся ў пункце н-р 4. З матарызацыяй нават дзяржава мае небанальныя праблемы, хаця ж ніхто яе не прымушае па ўсіх суботах каціць у глухія вёскі і мантачыць капітал на непатрэбныя білеты. А калі яшчэ і інжынер Стручук атрымаў таксама ж пільныя і патрабуючыя так унутранага, як і вонкавага спакою навукова-даследчыя працы, здаралася мне пабываць у бацькоў нават папярод тыдня. Калі будуць прысвойваць ордэны за ўклад у развіццё дзяржаўнага транспарту, я спадзяюся на нейкую салідную, прынамсі сярэбраную бляху.

Тым часам маім аўто карыстаўся ўжо праўдападобна хтосьці другі, хтось — у каго не было такіх адказных, а адначасова абцяжараных працай сяброў.

Я пачаў задумвацца, ці не пераскочыць адразу да пункта н-р 5, рэалізацыю чацвёртага адтэрмінаваўшы на бліжэй неакрэсленую будучыню. Час уцякае, а ў чарзе яшчэ і дзеці, пра ўнукаў не згадваючы.

Кажуць — жаніцьба без кахання, як селядцы без солі.

Я не спрактыкаваны ў сямейным жыцці чалавек, ніколі яшчэ не жаніўся, аднак на ўсякі выпадак рашыў закахацца. Дзеля павелічэння эфектыўнасці ў пошуках адпаведнай для сябе нарачонай, падрыхтаваў я нават кароткі спісак. Памесціў там — вядома — пасля бязлітаснай з самім сабою кваліфікацыйнай размовы ўсе патэнцыяльныя кандыдаткі, а пані Ірэнка заваявала ў гэтым матрыманіяльным спаборніцтве, вельмі адказнае, першае месца. Мо таму, што яна суседка з трэцяга паверха, а мо проста таму, што ў апошні час пачала на маю асобу спаглядаць дзіўна ласкавым і прыязным вокам. Калі раней праходзіла побач мяне так, як праходзіць побач паветра, так цяпер першая дае „дзень добры" а нават усміхаецца і глядзіць услед за маімі крокамі. А сёння пані Ірэнка сказала:

— О-го-го, пане Владку! Учора ноччу такія водгаласы даходзілі з вашай кватэры, што ўвесь блёк аж калыхаўся! Па самыя фундаменты. А сёння, чуць свет і ўжо на нагах! Но-но, хто б падумаў...

Вочы пані Ірэнкі цаля за цаляй абмацалі маю постаць, стараючыся адшукаць той орган, які такім экстазам напаўняе ўвесь шматпавярховы блёк.

Я толькі што вярнуўся ад бацькоў, была шостая гадзіна раніцы, а тут яшчэ і пераапрануцца трэба, і туалет ранішні споўніць, і на фабрыку паспець. Узяў я пад развагу ўсе згаданыя акалічнасці, гутарка між намі не задоўжылася. Аднак гэтым „о-го-го" пані Ірэнка значна падмацавала сваю пазіцыю. Так значна, што пачаў я пра яе думаць як пра афіцыйную сваю нарачоную. Усякія сікуны кажуць у такіх выпадках: „мая дзяўчына", або „мая ляска", або — зусім ужо прымітыўна — „мая дупа". А мне вось падабаецца нямоднае слова „нарачоная" і ніколі ад яго не адкрусся. Не на тое стаў чалавек інструктарам па бяспецы і гігіене працы, каб цяпер адступаць перад усякімі, лішнімі, модамі.

У бюро было пуста і ціха. Адно панна Рэня сартавала якраз штодзённую карэспандэнцыю і, не перарываючы сваю працу, паведаміла мяне, што інжынер Стручук сёння ў водпуску, а інжынер Кашалюк на поўны месяц адкамандзіраваны ў сталіцу. Нейкае там, нікому непатрэбнае, абучэнне.

Я распрануўся і сеў за стол, каб таксама паглыбіцца ў паперы, аднак мае думкі, зусім нечакана, закружылі над галавой панны Рэні.

Белыя кудзеркі, набухлыя вусны, і — вочы! Вочы каціныя, далікатна-зялёныя, замглёныя няўлоўным вуалем дзявочай таямніцы... З гэтых зялёных вачэй адна за другой выплывалі ўвішныя шчупальцы нябачнага васьмінога, лісліва прыпадалі да маіх рук, і да маіх думак, каб бесцырымонна зацягнуць маё зямное і астральнае цела ў абдымкі панны Рэні. Агідная гэта справа — ваяваць на два фронты. У думках прасіў я прабачэння ў пані Ірэнкі, а потым, раз яшчэ нырнуўшы ў зялёную бездань, страціў астаткі сумленнасці і падумаў: „Няхай будзе, што мае быць". Вераломнасць спадарожнічае чалавеку пачынаючы з першага, крадзенага ў райскім садзе яблыка, аднак калі ты ў свае сорак усё яшчэ халасцяк, не думай як змяніць свет ды якім чынам паправіць чалавечую натуру. А гадзіне трынаццатай сорак я запрапанаваў панне Рэні схадзіць вечарам у кавярню, а яна, наздзіў лёгка, згадзілася. Ад такой нечаканасці я забыў пра абед. А зрэшты — напляваць мне цяпер на Меткавы кулінарыі: сіняя ад холаду бульбіна і гуляш — пасля тыднёвых змаганняў са страўнікамі выпадковых спажыўцоў — сканцэнтраваны на маёй талерцы!..

Мы доўга сядзелі ў кавярні. Гутарылі пра мастацтва і пра цэны ў магазінах, жартавалі над знаёмымі і незнаёмымі, а каньяк маркі „Напалеон" падсоўваў новыя і выдужаў старыя тэмы. Мне здавалася — панну Рэню ведаю ад заўжды і толькі да сёння раздзяляла нас празрыстая, халодна-шкляная шырма.

— Чалавек, — кажу , — я сталы. І хаця мне пад сорак, адчуваю сябе намнога маладышым. Ёсць у мяне кватэра, фінансавыя сродкі — няхай сабе і не самыя вялікія — аднак басяком сябе не лічу.

Стандартныя какеткі ў такіх выпадках пачынаюць цікавіцца вашымі фінансамі, а вось, аказваецца, панна Рэня і не стандартная, і не какетка. Панна Рэня сказала, што тузін гадоў, які быццам бы нас раздзяляе, для яе не мае ніякага значэння. Найважнейшы — чалавек. І яшчэ сказала панна Рэня, што я чалавек парадачны, і што яна мне верыць. Больш верыць, чым інжынеру Кашалюку. Я не пазнаваў сам сябе: хай чэрці на касматых хвастах разнясуць усе планы, пасады і машыны! Галоўная справа: сённяшні дзень і яго трэба лавіць. Бо інакш уцячэ беззваротна.

Мы не прыкмецілі нават, што выйшаў апошні госць. І толькі тады, калі наблізіўся афіцыянт, каб і нас тактоўна адправіць дамоў, я глянуў на гадзіннік, а потым і на рахунак. Глянуў і здзівіўся: у маім нутры не заенчыла і не лопнула ніякая спружына, хаця ладны кусок аўтамашыны ад'язджаў у глыбокую кішэню афіцыянта.

Мы ішлі дамоў. Мы ляцелі, мы плылі, а горад глядзеў на нас, як усе маткі свету глядзяць на сваё, ад'язджаючыя да шлюбу дзеці. І калі на вуліцы Баторыя, якраз насупраць малога рыначку, прыклеіўся нейкі разбэшчаны спіртам асобень, я адмаляваў яму такі партрэт, што асобень той, не паспеўшы і войкнуць, скруціўся ў цяні прыдарожнай ліпкі. Мне вельмі хацелася, каб быў гэта той самы тып, які ў кастрычніку здзекаваўся над маёй асобай. А Рэня пацалавала мяне ў вусны. У кватэры ўзяла мяне за рукі і павяла прама ў спальню. Я не паспеў і падумаць, адкуль яна так дакладна ведае маю кватэру, бо свет, зварушаны Рэнінымі пацалункамі, расхістаны далікатнымі і якімі ж моцнымі далонямі, раз'юшаны як дзявочым крыкам, зваліўся вось на мяне і на гадзіны прынамсі тры адабраў здольнасць якога-небудзь, цвярозага мыслення...

*(заканчэнне будзе)*

# Канцэрты „Крывії" ў Гданьску

10 мая ў Кельцкім пабе (Celtic Pub) у Гданьску пры вуліцы Лектыкарскай адбыліся канцэрты гурта „Kriwi" з Мінска. Сваімі канцэртамі гурт прыдбаў сабе аматараў беларускай песні сярод польскай моладзі. Некаторыя прыходзілі на ўсе чатыры канцэрты. Сапраўды, даўно я не бачыла, каб так успрымалася польскай моладдзю беларуская песня: спявалі, пляскалі, танцавалі і прасілі спяваць бясконца. Калі гурт адпачываў, раптам фанаты пачыналі крычаць: „Weronika"! Weronika...", пакуль вакалістка не пачала спяваць. Сапраўдным хітам стала песня „Бэйлолі", якую спявалі амаль усе прысутныя ў пабе.



Гурт існуе ад 1996 г. і ўзнік на аснове *folk modern* студыі „Палац". У ім спявае Вераніка Круглова, Тодар (Зміцер Вайцюшкевіч) — мультыінструменталіст і Франц (Юры Выдронак) — кампазітар, аранжыроўшчык і мастацкі кіраўнік. Назва гурту навязвае да племяннной традыцыі крывічоў. Свой стыль вызначаюць як *art modern folk*, спалучэнне старажытных традыцыяў гарлавых спеваў і сучаснага *sound* з элементамі імправізацыі і авангарду. Гурт ужывае аўтэнтычныя інструменты, зробленыя па старых тэхналогіях. Рэпертуар свой збіраюць падчас фальклорных экспедыцыяў.

Гданьскія фаны „Kriwi", якія пабывалі на ўсіх чатырох канцэртах, купілі ажно 20 касетаў гурту.

Канцэрты арганізаваў Уладзя Міхневіч з Менска, які год таму ажаніўся з Івонай Чайко і пражывае ў Гданьску.

„Kriwi" абяцалі, што прыедуць яшчэ ў ліпені. А Уладзя плануе ўвосень зрабіць канцэрт пад лозунгам „Źródła kultury" („Пачаткі культур") і запрасіць, апрача „Kriwi", таксама „Палац" і „Тройцу". Калі так будзе далей, беларуская музыка і песня заваюе гданьскую моладзь. Канцэрты „Kriwi" гэта прадвяшчаюць.

**Лена Глагоўская**

# Развітанне з...

[1 ☞ працяг]

Дырэктар Яўген Сачко падвёў рэзультаты экзаменаў на атэстат сталасці і ўчобы ў ліцэі. Звярнуў увагу на клас IV „б", якога выхавацелем была настаўніца біялогіі Аліна Пліс. Больш чым палова вучняў гэтага класа справілася з матуральнымі экзаменамі з сярэдняй ацэнкай вышэй 4 (сярэдняя класа ў цэлым — 4,53), а сярэдняя найлепшай вучаніцы — Юстыны Ляшкевіч — 5,43.

Затым былі зачытаны прозвішчы і ўручаны ўзнагароды вучням, якія вылучыліся ў вучобе, спорце і грамадскай актыўнасці. Найбольш вучняў дабілася поспехаў на Алімпіядзе беларускай мовы і спаборніцтве валейбалістаў. Бацькам абітурыентаў, якія атрымалі найлепшыя ацэнкі, уручаліся пахвальныя пісьмы ад дырэкцыі.

Трэцякласнікі падрыхтавалі таксама для сваіх старэйшых сяброў артыстычную частку. Былі ўспаміны тых, якія яшчэ ў школе застануцца, супольныя спевы і танцы.

**Аляксей Мароз**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Другакласнікі з настаўніцай Валянцінай Бужынскай.*

# „Літарынка” падабаецца дзецям

— „Літарынка” мне падабаецца, — кажа Марта Сурэль. — Яна вясёлая, каляровая і цікавая.

У II „а” класе бельскай „тройкі” з захапленнем гавораць пра новы падручнік для беларускай мовы — пра „Літарынку” Раісы Бурыла.

— У класе ёсць хлопчык, які запоўніў наперад усе крыжаванкі, — кажа пра Петруся Ільяшука настаўніца Валянціна Бужынская.

Ані Нікалаюк у „Літарынцы” падабаюцца вершы. Дзяўчынка, як і многія яе сябры з II „а, прымала ўдзел у дэкламатарскім конкурсе „Роднае слова”. Разам з Эдытай Перавой, Мартай Бабулевіч, Мартай Сурэль і Данікам Флярко. Аня дайшла да раённага этапу. А згаданыя дзяўчынкі, Марта Бабулевіч (II месца) і Эдыта Перавой (III месца), сталі лаўрэатамі Цэнтральнага конкурсу.

Валянціна Бужынская паказвае як прыгожа ў „Літарынцы” пішуць яе другакласнікі.

— Марта Бабулевіч вядзе ўзорна, без памылак, прыгожа, старанна.

Далей свае „літарынкі” паказваюць Марта Сурэль, Аня Нікалаюк, Малгажата Парфянюк, Аня Юрчук, Рафал Паўлючук, Лукаш Хаманьскі і Пятрусь Ільяшук.

— Дзякуючы „Літарынцы” мы ў цікавы спосаб пазнаем літаркі, — кажуць дзеці.

Многія з іх ужо ўмеюць чытаць.

— А ў наступным годзе будзем падпісвацца на „Зорку”, — кажуць мае новыя сябры на развітанне.

**ЗОРКА**

*Фота Г. КАНДРАЦЮК*

# Чэрвень

Загарэлы, дужы, босы,
Коціць Чэрвень да дзятвы
Пахі кветак, ззянне росаў,
Шолах лісця і травы.
Вось уз'ехаў воз бухматы
На падворак светлы наш.
Лету, сонцу, вішням, хатам
Старахцеў прыветны марш.
Падыходзь жа, калі ласка,
Да цудоўнага вазка,
Выбірай любыя краскі
Для духмянага вянка!

**Алег Мінкін**

# Вясёлы куточак

Настаўніца спытала Марка, хто напісаў „Пана Тадэвуша”. Спалоханы вучань адказаў, што гэта не ён. Настаўніца загадала паклікаць бацьку. Бацька пасля хвіліны роздумаў заклапочана адказвае:

— Гэта напэўна не мой Марак, бо калі б ён такое зрабіў, напэўна прызнаўся б.

* * *

— Хлопча! — нервуецца настаўнік, — у тваёй галаве адно сена.

— Вы мяне вельмі ўзрадавалі, — адказвае школьнік, — бо мамачка гаворыць, што ў мяне пустая галава.

* * *

Марак прыносіць дадому школьнае пасведчанне, у якім зверху ўніз адны адзінкі, толькі на канцы пяцёрка па спевах.

— Не разумею, — гаворыць бацька, — як табе пасля гэтага ўсяго хацелася яшчэ спяваць.

* * *

Пасля заканчэння навучальнага года сустракаюцца два школьнікі:

— Што чуваць у цябе?

— Бацька два разы адлупцаваў мяне.

— За што два разы?

— Першы раз — калі паказаў яму пасведчанне, а другі раз — калі ён скумекаў, што гэта было яго старое пасведчанне.

* * *

Бацька аглядае вучнёўскі бюлетэнь сына:

[працяг ☞ 7]

# Польска-беларуская крыжаванка № 24

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Brzask / Głód | ▼ | Ambasador / Licho | ▼ | Dal | Baśń | ▼ |
| ► | | ▼ | | ▼ | | |
| Lis ► / Pokrowiec | | | | | | |
| ► | | | | | | |
| Kalka ► | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 20:** Факс, пекар, рыбак, мурашкаед, Саар, круг, сыр, бас, паша, Мекка, ар, балет, рада.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі: **Паўліна Герасімюк** з Гайнаўкі, **Паўліна Кавальчук** і **Ёля Дэнісюк** з ПШ у Пасынках з сядзібай у Крывой, **Паўліна Савіцкая** і **Уршуля Ляўчук** з Гарадка, **Павел Белаказовіч** і **Веслаў Лукашук** з Бельска-Падляшскага, **Анна Каліноўская** з Махнатага. Віншуем! Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

# Коцік, пеўнік і лісіца

Жылі-былі коцік і пеўнік. Добра жылі, дружна. Коцік на паляванне хадзіў, а пеўнік есці варыў, хатку падмятаў, песні спяваў. Аднойчы пайшоў коцік на паляванне, а пеўнік зачыніў за ім дзверы ды пачаў абед варыць. Бяжыць лісіца, убачыла хатку, падскочыла да акенца:

— Гэй, хто тут гаспадар?

— Я, — кажа пеўнік.

— Пусці ў хатку.

— Чаго?

— Пасяджу трохі, адпачну з дарогі.

Пеўнік добры быў, пусціў лісіцу ў хатку, а лісіца — цап! — ухапіла яго і панесла дадому. Апамятаўся пеўнік, закрычаў на ўвесь лес.

— Коце, браце!

Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы,
Па барах, па карчах,
Аж бярэ мяне страх!..

Пачуў гэта коцік, прыбег, адабраў у лісіцы пеўніка і завёў яго назад у хатку.

— Ну, — кажа, — глядзі ж, другі раз не пускай лісіцу, бо цяпер я далей пайду і магу не пачуць цябе.

— Добра, — кажа пеўнік, — не пушчу.

Зноў пайшоў коцік на паляванне. А лісіца — як тут была.

— Пеўнік, галубок, разумны лабок, адчыні!

— Што табе трэба?

— Пазыч агню.

# Займаюцца ў тэатральным гуртку



*Тэатральная група з V „б” з настаўніцай Аннай Бжазоўскай.*

У днях 18—22 мая г.г. група дзяцей з Беласточчыны пабывала на экскурсіі ў Беларусі. Былі там і вучні з V „б” класа бельскай „тройкі”.

— Гэта была ўзнагарода за ўдзел у конкурсах і дзейнасць у тэатральным гуртку, — кажа настаўніца беларускай мовы **Анна Бжазоўская**. Паездку арганізавала Міністэрства асветы Рэспублікі Беларусь.

— Наведалі мы Мінск, Нясвіж, Мір, Заслаўе, — пералічваюць пяцікласнікі.

— Пабывалі ў музеях, былі на каруселі, у батанічным садзе, — кажа **Крыстафор Кенігсман.**

— Два разы хадзілі ў тэатр, — адзначае **Крыстафор Екацярынчык**. — На п'есу „Ноч у Венецыі” і „Барбара Радзівіл”.

У V „б” шмат паклоннікаў тэатра.

— Ад трэцяга класа мы працуем у тэатральным гуртку, — кажа **Міхась Раманюк**. — На кожным аглядзе беларускага сцэнічнага слова мы займаем высокія месцы. Апошнім часам ладзілі „Гуканне вясны”.

— Я іграла ролю „Вядучай”, — кажа **Ева Вязоўская**. — Мы многа напрацаваліся, пакуль паставілі п'есу. У кожны чацвер пасля ўрокаў хадзілі ў БДК на рэпетыцыі.

— І навучыліся вясновыя песні, якіх раней ніхто не чуў, як: „Дзякуй Богу, што вясна прыйшла” і „Жаўраначкі, прыляціце”, — дадаюць пяцікласнікі.

— Самі шукалі ўбораў, — кажа Міхась Раманюк, які ўжо трэці год падрад іграе ролю „Дзядулі”.

— Прыносілі адзенне з хаты, з кабінета беларускай мовы, ад „Маланкі” пазычалі саламяны капялюш.

У V „б” 26 вучняў, выхавацелькай класа з'яўляецца **Вера Матысюк**, якую часова заступае **Тэрэса Янушэўская**. Настаўніца назвала таксама выдатнікаў па беларускай мове. Сярод іх згаданыя ўжо паклоннікі тэатра як: **Міхась Раманюк, Крыстафор Екацерынчык, Крыстафор Кэнігсман, Ева Вязоўская, Ева Белаказовіч, Магда Лазовік, Юліта Гліва, Адам Хамюк, Тамаш Парфянюк, Эміля Якубовіч, Малгажата Полікатус і Эмілія Касінская.**

Зорка

*Фота Ганны Кадрацюк*

# Вінцук Гадлеўскі

Вінцук Гадлеўскі быў каталіцкім святаром. Аднак яго жыццё і дзейнасць неаддзельна былі звязаны з беларускім рухам. Адданасць Бацькаўшчыне і беларускаму народу было зместам яго душы. За Беларусь пацярпеў пакуты і здзекі. Нарадзіўся ў 1898 годзе ў Поразаве каля Ваўкавыска. Скончыў Віленскую каталіцкую семінарыю і Пецярбургскую каталіцкую духоўную акадэмію. Пасля лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі ўключыўся ў беларускую палітычную дзейнасць. Быў ініцыятарам склікання з'езда беларускіх ксяндзоў і заснавальнікам беларускай каталіцкай арганізацыі. Браў удзел у І Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 года. Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі ўвайшоў у склад кіраўнічых органаў узнікаючай дзяржавы.

Выконваючы абавязкі святара як адзін з першых увёў у багаслужбу беларускую мову, за што стаў ворагам польскіх улад. За карыстанне роднай мовай у касцёле быў перанесены віленскім каталіцкім архіепіскапам Рамуальдам Ялбжыкоўскім на правінцыю. У 1924 г. стаў настаяцелем парафіі ў Жодзішках. За культурную працу сярод мясцовых каталікоў-беларусаў у 1926 г. быў арыштаваны польскай паліцыяй. Па гэтай самай прычыне саджалі яго ў турму яшчэ ў 1927 і 1929 гадах.

Гадлеўскі шмат пісаў у беларускай прэсе. Сам быў рэдактарам часопісаў „Крыніца” і „Беларускі фронт”. У 1930 годзе пераклаў на беларускую мову „Новы Запавет”.

Калі ў 1939 годзе пачалася вайна, выехаў у нямецкую акупацыйную зону ў Варшаву, а пасля ў Берлін, дзе разам з іншымі стварыў Беларускі нацыянальны цэнтр. Лічыў, што нямецка-савецкая вайна адкрые дарогу да стварэння беларускай дзяржаўнасці. Зверствы гітлераўцаў у акупаванай Беларусі выклікалі яго супраціў. Прабаваў стварыць незалежную беларускую канспірацыю. У снежні 1942 года быў арыштаваны немцамі і закатаваны.

# Міфы старой Беларусі

**30. Начніца**

Збіральнік фальклору Міхал Федароўскі сабраў пра Начніцу такія весткі:

„Катора кабета ніколі не мела дзіцяці праз сваё шальмоўства або яе людзі праклялі, то такая па смерці ходзіць Начніцаю: не дае дзецям спаць, шчыпле іх, дакучае, а дзіця ўсё плача ўсю ноч”.

„Начніца дае ссаць свае грудзі, а ў яе цыцках не малако, а атрута, то і дзіця праз тое хварэе, мэнчыцца, а як не дагадаюцца чым лячыць, то і ўмірае...”

„Начніцы, як толькі ноч настане, то лазяць па гнёздах птушыных, выпіваюць яйкі і ядзяць птушанятак.”

„Як Начніца пералезе пад калыскай або ў калыску ўлезе, то дзіця плача па начах”.

„Як Начніца да дзіцяці пападзе, то трэба з брудных хустаў нарабіць лялек, пападвешваць на кожным акне па дзве-тры і сказаць: «Глядзеце, мае лялечкі, каб мой маленькі спаў!» — то і Начніцы мінуцца”.

# Не зламі язык!

Маша шыла шапку Сашу. Шапку Сашу шыла Маша.
Саша па шашы, смокчучы сушку, шпацыравала.
Смешкі кошцы, слёзкі мышцы.
З'еў маладзец трыццаць тры пірагі ды ўсе з тварагом.
Руды Рыгор гроб грыбы граблямі.
Сонлівага не дабудзішся, лянівага не дашлешся.
Дудар дудару дарма грае.
Раз прывёз Рыгор Цімоху мех арэхаў, мех гароху.
Рабая курка клюе крупкі.
На двары стары баран грукаў зранку ў барабан.

— Навошта?

— Буду ў печы паліць.

— Не адчыню, бо ты схопіш мяне.

— Ды не, больш не буду хапаць.

Паверыў пеўнік лісіцы і адчыніў дзверы. А тая — ухапіла яго і панесла. Пеўнік зноў пачаў клікаць коціка:

— Коце, браце!
Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы,
Па барах, па карчах,
Аж бярэ мяне страх!..

Добра, што коцік далёка не адышоўся ад домку: пачуў ён пеўніка, прыбег і адабраў яго ад лісіцы.

— Ну, — кажа ён пеўніку, — калі ты і трэці раз адчыніш лісіцы дзверы, то бяда будзе: цяпер я пайду на паляванне яшчэ далей.

— Не, — кажа пеўнік, — больш я гэтай ліхадзейцы дзвярэй не адчыню.

— Глядзі ж! — І коцік пайшоў у самыя далёкія лясы.

Прыбегла лісіца:

— Пеўнік, галубок, разумны лабок, дай вугалёк!

— Не, цяпер я дзверы табе не адчыню!

— Дык ты праз акенца падай.

— Праз акенца можна, — згадзіўся пеўнік.

Адчыніў ён акенца, а лісіца ўхапіла яго і панесла. Крычаў, крычаў пеўнік, ды коцік яго так і не пачуў: вельмі ж далёка ён зайшоў.

Прынесла лісіца пеўніка дахаты і загадала дочкам у печы паліць, з пеўніка крупнік варыць. А сама пайшла гасцей склікаць.

Вярнуўся з палявання коцік, бачыць — няма пеўніка, „Мусіць яго зноў лісіца ўхапіла, — падумаў коцік. — Як жа яго цяпер з бяды выратаваць?”

Зрабіў ён скрыпачку галасістую ды пайшоў да лісіцы. Прыйшоў, сеў ля варот і зайграў, прыпяваючы:

— Тылі-тылі, скрыпіца,
Тут сядзела лісіца,
А ў лісіцы новы двор,
Сем дачушак на выбор,
Восьмы пеўнік — гэта мой!

Пачулі лісіцыны дочкі музыку і кажуць:

— Як жа хораша нехта грае, пабяжым паслухаем, а пеўніка зварыць яшчэ паспеем.

Выбеглі яны на двор ды і заслухаліся, пеўнік жа тым часам не драмаў: выскачыў з лісіцынай хаткі ды пабег з коцікам дахаты. Так і засталася лісіца ні з чым.

# Вясёлы куточак

[6 ☞ працяг]

— Як гэта ў цябе атрымалася, што з усіх прадметаў апрача матэматыкі маеш адны адзінкі?

— Бо па матэматыцы мяне яшчэ не пыталі.

* * *

— Як склаўся табе экзамен па хіміі?

— Праваліў.

— Я табе ўвесь час гаварыў, што замала вучышся дома...

— Гэта не ад таго! Настаўнік захацеў, каб я на працягу некалькіх хвілін растлумачыў яму тое, над чым Марыя Складоўская-Кюры працавала ўсё сваё жыццё.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**

Па слядах Яна Тарасевіча

# Наш паніч музыкантам быў

**Рамантычна-ўзнёслая музыка Яна Тарасевіча сугучная краявідам Сакольшчыны. Гэтую залежнасць найбольш адчуваем у Шындзелі. Тут таксама жывуць людзі, якія добра памятаюць кампазітара.**



*Грушка-дзічка — адзіны след па Тарасевічавай сядзібе.*

Шындзель — хутаранская вёсачка. Пабудовы схаваныя ў зелені. Адсюль дзесяць кіламетраў шашой у Саколку.

Разам з доктар Ленай Глагоўскай распытваем пра музыканта Яна Тарасевіча. У Шындзелі маэстра пражыў увесь міжваенны час.

**Ён з паноў вялікіх быў**

— Добра памятаю нашага паніча, — кажа 65-гадовы земляроб-пенсіянер Сцяпан Белавус. — З дзядзькам да яго ў маёнтак хадзіў. Перад вайной яшчэ.

Дзядзька Сцяпана Белавуса сталяркай цікавіўся. І паніч любіў гэтую справу. Бывала, сустрэнуцца і дзве гадзіны пра сталярку гавораць.

— Па-людску з намі абыходзіўся, — успамінае наш субяседнік. — Частаваў, як заходзілі. Сам родам з паноў вялікіх быў. Лекарскую школу меў.

— На якой мове гаварыў з вашым дзядзькам?

— Па-беларуску. Яшчэ і сёння ў наваколлі так размаўляюць. З дзецьмі папольску, каб у навуцы не перашкаджала.

Пасля вайны пачалі ад беларускай мовы адыходзіць. Рускімі палохалі. Як старэйшы брат з Беластока прыязджаў, асцерагаў Белавусаў. Казаў, каб толькі ў аўтобусе па-просту не гаварыць. Ці сярод незнаёмых. Бо рускія шпіёны ўсюды цікуюць, беларусаў на „белыя мядзведзі" пасылаюць.

Шындзель, як і амаль усё наваколле Саколкі, належыць каталіцкай канфесіі.

— Паніч Тарасевіч з праваслаўных быў, — адзначае С. Белавус. — Бо і ўсе найбагацейшыя паны *рускай* веры былі. І ў суседнім маёнтку Сцебялец, у недалёкім Лебядзіне. Казалі, цар дзеля шпіянажу іх пасяляў.

Пытаем пра двор Тарасевіча.

**— Няма ўжо двара**

Раней, нейкіх восем гадоў назад, ліпы старыя там яшчэ раслі. Парэзалі іх, полеаралі, абсеялі. Хату і будынкі яшчэ за саветаў вывезлі. Праўда, дом паніча просты быў, драўляны. Без фатэляў усякіх. Не тое, што ў Курыловічаў са Сцебяльца. Тыя ўсё мелі. Бочкамі мёд і масла адтуль за першых саветаў вывозілі.

Сцяпан Белавус распытвае пра нашы зацікаўленні Тарасевічам. Ці не сям'яму мы часам? Паясняем мэту нашага падарожжа. Тлумачым, што ў Беларусі іграюць музыку Яна Тарасевіча, што выклікае яна вялікае зацікаўленне, што кожны ўспамін пра шындзельскага паніча надзвычай нам цэнны і цікавы. Сцяпан Белавус і ягоная жонка з усёй душы хочуць нам дапамагчы.

— Пра Тарасевіча казалі, — дадае наш субяседнік, — што і сам маёнтак паліў. Хіба дзеля страхоўкі. А мо прадчуваў, што благое набліжаецца?

— Цяпер астаўся лес Тарасевіча, — падказвае жонка С. Белавуса. — Яшчэ і цяпер людзі кажуць „іду па грыбы ў лес Тарасевіча".

Сцяпан Белавус прыгадаў таксама людзей з маёнтка.

— Быў там такі эканом, Леанард Лявіцкі. Лёнкам яго звалі. Пасля вайны са служанкай Тарасевіча ажаніўся. У Саколцы жылі. Наша дачка ў іх на кватэры была.

— Ці Тарасевіч меў жонку?

— Казалі, — сцішае голас наш субяседнік, — што са служанкай жыў. З той, што Лявіцкі ажаніўся. Пан для іх хату ў Саколцы пабудаваў.

**У таямнічым хутары**

З Шындзелі ідзем у Сярбоўцы. Найперш лугамі, пасевамі, урэшце — прызабытым гасцінцам. На трэцім кіламетры вандроўкі спыняе нас скрыжаванне дарог. І квітнеючая грушка-дзічка, на насыпе, быццам кургане. Ля дрэўца робім фатаграфіі.

Паўкіламетра далей, на гары, сярод старых клёнаў і здзічэлага саду, прыкмячаем хутар. Хаціна і панадворак палохаюць старасцю. Брэшуць сабакі. Чакаем. Ці не выйдзе да нас гаспадар таямнічага хутара? А можа ўжо не жывуць тут людзі? — сумняваемся. Але ў заканапачаным рыззём і старой воўнай акне паяўляецца дзядок. Хвіліну пазней выходзіць да нас гаспадыня.

— І тут зямля Тарасевіча. А маёнтак быў на тым месцы, дзе грушка расце. — паказвае знаёмае нам ужо дрэўца на скрыжаванні дарог.

**Самагонку разам пілі**

Гаспадыня таямнічага хутара паказалася прыветнай субяседніцай. Пасля паясненняў, што яна нетутэйшая, прывяла пана Казімежа, дзядулю, што сачыў за намі з акна. Пан Казімеж не хоча назваць свайго прозвішча. Бо будуць яшчэ цягаць яго. Чаго баяцца? Кожны такі быў бы, калі б дасведчыў такіх здзекаў як пан Казімеж. Саветы пасля вайны ў „рай" яго вывезлі. Як у 56-м вярнуўся, то паніча ўжо не было.

— Вы ведалі Тарасевіча? — распытваем.

— Гэта ж мой найбліжэйшы сусед быў. Добры чалавек, вучоны, людзей лечыў.

Пан Казімеж найперш распавядае пра свайго дзеда, які, прыехаўшы з Амерыкі, у Тарасевіча зямлю купіў. Паперы на гэта ёсць. Сам Тарасевіч да трохсот гектараў меў. Не толькі ў Шындзелі, але і ў Курылах маёнтак яму належаў.

— У тых Курылах брат паніча ўтапіўся. Таму Тарасевіч не хацеў там жыць, здаваў у арэнду зямлю гаспадарам. А ў Шындзелі да вайны гаспадарыў. Як першыя саветы прыйшлі, выехаў і не паказваўся. Тады ягоны маёнтак расцягнулі. Кралі, што папала. Нават дрэвы парэзалі. Ніякага пажару не было. Мясцовыя людзі ўсё зруйнавалі. Пазней, калі паніч за немца вярнуўся, мазанку сабе збудаваў. Жыў у ёй, пакуль камуністы прэч не пагналі.

Пан Казімеж успамінае і прыемныя хвіліны.

— Мы нават выпівалі разам. Было гэта тады, як Тарасевіч з Латвіі вярнуўся. За немца. Зразу з Лявіцкім да мяне зайшоў. Я якраз самагонку гнаў. Паніч слабаватае здароў'е меў, заснуў пасля некалькіх чарак. Пазней залазаў на мяне і Лявіцкага, што ў хляве яго мы замкнулі. Ці спяваў пры выпіўцы? О-го, паніч меў добры голас. Часам смешную песню пра каваля і кавалиху заводзіў.

**Гаварыў, што жонку меў**

Умеў жартаваць. Як аднойчы даказваў дзядулі пана Казімежа, уся аколіца паўтарала. Было так: Тарасевіч не хацеў, каб яму фурманкамі цераз двор і сад ездзілі. Зрабіў новую дарогу, але пад гару высокую. І дзядуля пана Казімежа сказаў панічу: „Żeby panicz był koniem, Rogalski furmanem, a ja psem, to ja bym tego konia za nogę... ham, ham". А паніч на тое: „Я — не конь. Рагальскі — не фурман, а вы — сабака?!"

Пытаем пра мову, на якой гаварыў Тарасевіч.

— Усяляк умеў. І па-польску, і па-руску. Спрытны быў. Сам нават радыё зрабіў, каб пры немцах ведаць, што на свеце дзеецца.

Пытаем пра сям'ю Тарасевіча.

— Калісьці ўспамінаў, што меў жонку, — прыгадвае наш субяседнік. — Толькі характарам не падыходзілі, коратка разам жылі. З Гродна пані была. У іх і дачка Таццяна нарадзілася.

Перад вайной, калі апошні раз бачыў яе пан Казімеж, на васемнаццаць гадоў выглядала.

— Пазней мяне ў „рай" вывезлі. А як вярнуўся, то паніча ў Беластоку наведаў. Начаваў у яго.

Развітваемся з паняй Эляй і панам Казімежам. Гаспадыня праводзіць нас на дарогу.

— Сад наш ад Тарасевіча перасаджаны, — паказвае квітнеючыя яблыні. — Стары, як мы ўжо, запушчаны. Няма ад яго карысці.

***(заканчэнне будзе)***

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*

# Увод у літаратурны кантэкст

Нядаўна выйшаў з друку зборнік „Філаматы і філарэты"* — шосты па ліку том „Беларускага кнігазбору". У ім змяшчаюцца публіцыстычныя і паэтычныя творы дзесяці самых славутых і таленавітых сяброў віленскіх згуртаванняў студэнцкай моладзі першай паловы XIX стагоддзя, якія, звярнуўшыся да вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа, фактычна пачалі яго нацыянальнае адраджэнне. Укладальнік гэтага зборніка, а заадно перакладчык польскамоўных твораў і аўтар прадмовы, біяграфічных даведак ды каментарыяў Кастусь Цвірка звяртае ўвагу, што дзейнасць віленскіх філаматаў і філарэтаў — адна з надзвычай важных, але недастаткова асветленых, старонак беларускай гісторыі. На яго думку, іх значэнне ў гісторыі беларускай літаратуры і ў нацыянальным адраджэнні па-сапраўднаму яшчэ не ацэнены і па сутнасці яны яшчэ застаюцца выключанымі з кантэксту беларускай літаратурнай гісторыі.

І сапраўды так яно ёсць. Калі параўнаць нававыдадзены зборнік хаця б з падручнікамі па гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры 10-20-гадовай даўнасці ці са зборнікам „Пачынальнікі", у якім змешчаны дакументы і матэрыялы аб жыцці і дзейнасці пачынальнікаў новай беларускай літаратуры (Мінску 1977), адразу заўважаецца шырэйшае прадстаўленне пісьменнікаў гэтай плыні. Калі раней у лік пачынальнікаў найчасцей заносіліся Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Адам Міцкевіч ці Тамаш Зан, дык у згаданы зборнік уключаны творы Ануфрыя Петрашкевіча, Францішка Малеўскага, Міхала Рукевіча, Ігната Дамейкі, Юзафа Кавалеўскага і Аляксандра Эдварда Адынца. Тое, што яны пісалі на польскай мове, Кастусь Цвірка лічыць іх бядой, а не віной, паколькі ў „выніку шматвекавой паланізацыі Беларусі ўсё справаводства і пісьменства было тут к XIX стагоддзю цалкам польскае".

Філаматы ні на хвіліну, — піша аўтар прадмовы, — не забываліся, што яны — „ліцьвіны", дзеці „Літвы" і гэты „літоўскі", а ў сапраўднасці беларускі патрыятызм дазваляе гаварыць пра іх як пра самую першую хвалю пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння. Якраз ад лакальнага патрыятызму выводзілася павышаная цікавасць віленскіх студэнтаў да свайго беларускага народа, яго традыцыйнай культуры, да вуснапаэтычнай творчасці. Адам Міцкевіч у саракавых гадах XIX стагоддзя, калі чытаў лекцыі ў парыжскім Каледж дэ Франс, сказаў: „На беларускай мове, якую называюць русінскай або літоўска-русінскай, таксама размаўляе каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і выдатна распрацавана". Не ўсе філаматы і філарэты толькі захапляліся беларускай мовай і сваё захапленне пераказвалі на польскай. У згаданым зборніку можна прачытаць змешчаныя ў арыгінале чатыры беларускія вершы Яна Чачота.

Зборнік „Філаматы і філарэты" — гэта не толькі выданне, якое ўзбагаціць сёлетнія святкаванні Міцкевічаўскага года, але і чарговы крок на шляху ўвядзення польскамоўных пачынальнікаў беларускага прыгожага пісьменства ў літаратурны кантэкст.

**Віталь Луба**

**Філаматы і філарэты*. Укладанне, пераклад польскамоўных твораў, прадмова, біяграфічныя даведкі пра аўтараў і каментарыі К. Цвіркі, Мінск 1998, с. 400.

# Новы будынак „Полісы”

23 мая г.г. у Гайнаўцы адбылося ўрачыстае адкрыццё новага будынка філіяла Страхавога таварыства „Поліса”. Падзея звычайная, бо кожнае страхавое прадпрыемства, якое змагаецца за кліента, вымушана павышаць стандарт паслуг. Даўней не выклікала б гэта асаблівай зацікаўленасці. Зараз, аднак, кожная нагода падыходзіць, каб звярнуць на сябе ўвагу і гэтым самым прыцягнуць кліента.

На мерапрыемства прыехала кіраўніцтва Управы „Полісы” з Варшавы і кіраўніцтва аддзела з Беластока. Запрошаны былі прадстаўнікі Сейма, Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка, бурмістры і войты навакольных гмін Гайнаўшчыны, дырэктары розных мерапрыемстваў і ўстаноў. Зачытаных было недзе пад трыццаць прозвішчаў. Прысутных вітаў духавы аркестр Лясnога тэхнікума ў Белавежы і калектыў „Чарамшына”. Паколькі песні прагучалі на панадворку, пачалі затрымліваццa людзі (спрацавала рэклама).

Пасля афіцыйнага адкрыцця госці і журналісты запрошаны былі на прэс-канферэнцыю. Прадстаўнікі Управы з Варшавы расказалі пра поспехі і планы. Зыгмунт Келярскі, намеснік старшыні Управы паінфармаваў, што са сваімі страхавымі паслугамі „Поліса” займае 4% рынку Польшчы, 8—10% рынку Беласточчыны і 49% рынку Гайнаўшчыны.

— Ад пачатку 1999 года ўвойдуць на польскі рынак страхавыя таварыствы з іншых краін, — працягваў Зыгмунт Келярскі. — Таму мы і падрыхтавалі планы дзеяння да 2003 года. Хочам пабольшыць капітал і павысіць якасць паслуг. Маем намер адкрыць у кожным будучым павеце свой філіял.

Так што, страхавы рынак Гайнаўшчыны падзелены паміж дзве вялікія страхавыя кампаніі (PZU, „Polisa”). У наступным годзе пабачым, ці будуць яны канкурэнтнымі для заходніх таварыстваў. Новы будынак, урачыстае мерапрыемства і выступленне „Чарамшыны” — гэта крокі ў бок кліента. Аднак самае галоўнае для кліента — гэта якасць паслуг.

**Аляксей Мароз**

# Подзвіг а. Рыгора Сасны

Калі людзі едуць шашой праз вёску Рыбалы, мала хто ведае, што там жыве святар-выдавец. Апошняя серыя кніг настаяцеля Рыбалаўскага прыхода датычыць бібліяграфіі ўсходняга хрысціянства на польскай мове за 1944—1997 гады. Яна патрэбна ўсім пішучым пра праваслаўе, грэка-каталіцызм, копцкую, сыра-малабарскую армянскую Цэрквы. Бяда, аднак, у тым, што парафіяльная бібліятэка ў Рыбалах мае мала часопісаў і хочаш не хочаш а. Рыгору неабходна ехаць у Беласток. Каб знайсці ўсё, трэба дадаткова пабываць і ў Варшаве, але як жа яму пакінуць на некалькі дзён вернікаў, сям'ю? Без спонсара тут ані руш. Знайшліся добрыя людзі: далі грошы на друк малатыражнага выдання.

Кожная навуковая кніга патрабуе паказальнікаў. Ёсць у бібліяграфіях а. Сасны алфавітні і геаграфічны паказальнікі, а няма самога галоўнага — прадметнага. Першыя два можна зрабіць на аснове загалоўкаў артыкулаў, апошні патрабуе, каб тэкст прачытаць „ад дошкі да дошкі”. Ідэалам было б даць і кароценькія анатацыі, бо часам тытул артыкула паэтычны, недакладны.

Пры распрацоўцы нашай бібліяграфіі патрэбна талака — калектыўная пomач. Мая парада такая: у праграму Вышэйшай духоўнай семінарыі ды Хрысціянскай багаслоўскай акадэміі ў Варшаве трэба ўвесці элементы тэорыі бібліяграфіі ды інфарматыкі, а студэнты ў рамках семінарыйных практык праглядаюць ужо зарэгістраваныя артыкулы і прадметна іх апрацоўць пад кіраўніцтвам спецыяліста. Гэта ўсім ім пойдзе ў карысць.

Вельмі цікавы можа быць іканаграфічны паказальнік, з пералікам ікон, фатаграфій людзей, карт і г.п., памешчаных пры кнізе або артыкуле.

Вось прыбліжаецца 2000 год і варта было б расшырыць прамежак часу бібліяграфіі на 1900—2000 гады (цэлае стагоддзе).

Расея, Украіна, Грузія, Румынія, Балгарыя, Сербія такой бібліяграфіі не маюць, значыць, мы наперадзе ўсіх.

**Сэрафін Корчак-Міхалеўскі**

# Выстаўка ікон

Ад 25 да 31 мая г.г., у час Фестывалю царкоўнай музыкі, у Гайнаўскім доме культуры можна было пабачыць выстаўку ікон з Іканапіснай школы ў Бельску-Падляшскім.

Школа паўстала ў 1991 годзе, а кіруе ёю айцец Лявонцій Тафілюк. Пасля чатырохгадовай вучобы яе выпускнікі — спецыялісты ў галіне іканапісання — раз'язджаюцца па свеце, а іконы, напісаныя ў час вучобы, паказваюцца на выстаўках.

У выставачнай зале харысты і турысты знаёміліся з іконамі напісанымі ў традыцыі візантыйскага мастацтва і рускага іканапісу XIV-XVI стагоддзяў. Іконы святых Пятра і Паўла, Кузьмы і Дзям'яна, святой мучаніцы Дарыі, святога Міколы, Благавешчання Багародзіцы, Нараджэння Хрыстоваga, Дзевы Багародзіцы і Ісуса Хрыста ўражвалі не толькі харыстаў з заходніх краін. Можна было пазнаёміцца таксама з прыладамі працы бельскіх іканапісцаў, з этапамі пісання іконы — ад сырой дошкі да амаль гатовай працы. Гайнаўяне, якія прыходзілі паглядзець выстаўку, успаміналі айца Лявонція Тафілюка, які раней пачынаў пабудову Сабора Святой Тройцы ў Гайнаўцы.

**(ам-з)**

# Прабег памяці Адама Міцкевіча

Марафон памяці Адама Міцкевіча, выдатнага паэта Польшчы і Беларусі, прайшоў ад Навагрудка да Вроцлава. У прабегу прынялі ўдзел спартсмены Польшчы і Беларусі. 27 мая мерапрыемства прайшло на тэрыторыі Беласточчыны. Прабег быў арганізаваны спартыўна-патрыятычным клубам „Радзіма” (Беларусь) і прайшоў у рамках салідарнасці спартсменаў Польшчы і Беларусі.

**Ян Абадоўскі**

# Уля, унучка Васілёва

**Петручуковa ўнучка — у Ежы Гофмана. Праўда, толькі ў эпізодзе, але ўсё ж — буйным планам.**



Светлавалосай Улі Астаневіч васемнаццаць гадоў. Тварык у яе па-дзіцячы крыху пуцаценькі, але гэта дзеўка сур'ёзная — вучыцца ў III класе ліцэя ў Ломжы, цікавіцца літаратурай, піша вершы і друкуецца нават у агульнапольскіх часопісах (удалася, відаць, у дзеда).

Усе чытачы Генрыка Сянкевіча, як заўсёды, вельмі хвалююцца перад фільмавай пастаноўкай яго твораў. Так было і з „Крыжакамі”, і з „Патопам”, і з „Панам Валадыёўскім”. Становіцца гэта часам тэмай агульнакраёвай гарачай дыскусіі, мяжуючай часам з істэрыкай. Народ абмяркоўвае, каму павінен даць рэжысёр галоўную ролю, злуецца на хібы ў рэалізацыі і разыходжанні з уласнымі ўяўленнямі пра тое, як павінна выглядаць Аленька Білевічанка, Заглоба ці Лонгін Падбіпента з Мышыхкішак. Рэалізатараў засыпаюць лісты, нярэз зневажаючыя, іншы раз пахвальныя. Напісала і Уля ліст рэжысёру „Агнём і мячом”, каб выказаць сваю радасць, што будзе ставіцца гэты фільм, што ўдалося Ежы Гофману прабіцца цераз мур праблемаў. Схапіла проста за ручку і напісала, вядома, не спадзеючыся адказу. Бо хто ж будзе адказваць ліцэістцы з Ломжы? Вялікі Гофман? Добра яшчэ, калі ўвогуле прачытае той ліст...

Якраз сядзела дома над біялогіяй, перад кантрольнай, як раптам пазваніў тэлефон. З другога канца дроту хтосьці прадставіўся: „Ежы Гофман!” Уля спачатку падумала, што гэта нейкі жарт калег — пару асоб ведала пра той ліст. Але голас быў такі аўтэнтычны! Уля неяк апрытомнела, і ўдалося ёй настолькі цікава сябе зарэкамендаваць, што рэжысёр, пасля пару сказаў падзякі за ліст, запрасіў дзяўчыну прыехаць паглядзець, як ставіцца фільм. Папрасіў прыслаць свой здымак і абяцаў, што хтосьці з яго супрацоўнікаў яшчэ патэлефануе.

Вядома, для маладой дзяўчыны такая размова можа сапраўды ўдарыць у галаў. Але Уля, хоць, вядома, любіць марыць, усё ж моцна трымаецца зямлі. Здымак, праўда, выслала. Пра размову з Ежы Гофманам сказала бацькам і сястры Еве, ды і амаль забыла пра тую размову.

Пазваніў другі рэжысёр „Агнём і мячом”, Збігнеў Груз. Паінфармаваў, што 25 сакавіка будзе ставіцца сцэна з украінскага вяселля. Ежы Гофман прапануе Улі выступіць у гэтым эпізодзе. Паехала ў варшаўскую студыю з сястрой. Заняўся ёю пан Збігнеў, распытаў пра настрой, успакоіў. У першы дзень дакладна камплектавалі строй, у якім Уля мела выступіць перад камерамі: шэрабелая ільняная кашуля, з нашытымі стужкамі на рукавах і наўкол шыі, крыху выпалавелая чырвоная спадніца, скураныя лапцікі. Ад кожнага элементу строя — аддзельны спецыяліст. Пасля грыміроўка. Тоўстая каса, шчокі падмалаваныя так, быццам разагрэў вясельніцу танец. На твар яшчэ спецыяльнае жэле — як пот. Наўкол — іншыя статысты. Мужыкі ў прычосках з эпохі — з асалэдцамі, стрыжаныя патыліцы. Твары аздобленыя вусамі. Салідная група вясельнікаў і атрад жаўнераў Заглобы, з шаблямі і бандалетамі за поясамі.

— Здавалася, пануе нясцерпны хаос, — кажа Уля, — але „тэхнічныя” накіравалі нас у аграмадную залу, дзе ўжо была падрыхтавана перспектыўная дэкарацыя ў выглядзе карчмы. „Украінскія сяляне” з маладою парай, жаўнеры Заглобы і пару дзяцяк, што пішчалі пад нагамі вясельнікаў. Увайшоў Гофман, стала ціха як мак пасеяўшы. У мяне склалася ўражанне, што гэта тэрарыст! Расставіў усіх куды трэба. Ніякай дыскусіі, заўваг з боку акцёраў. Усё было запланавана, вырашана, і — да працы!

Уля не лічыла, колькі разоў паўтаралася сцэна танца вясельнікаў. Не, не так — стоп. Звініць пабітае ў вокнах шкло, стрэлы з бандалетаў. Уля ў першым радзе вясельнікаў. У карчму ўвальваецца Заглоба — Кшыштаф Кавалеўскі з жаўнерамі. Напаў на карчму, а цяпер ён — госць. Выпівае віно, разбівае гліняны кубак. Абломкі рассыпаюцца па ўсёй хаце. Стоп! Паўтараем! Рэжысёр мае заўвагі. Хутка прыбіраюцца аскепкі шкла і гліны, папраўляецца грым і строі — няма хвіліны адпачынку.

— Калі ўжо Гофман палічыў, што іграем як трэба, не спадабалася яму ўстаноўка святла. Пасля — камераў. Пасля трэба змяніць канцэпцыю сцэны... Заглоба выбіваў чарговыя шыбы, тоўк кубкі, мы танцавалі, музыкі гралі і спявалі. Ніхто не наракаў, хоць усе падалі з ног.

Пасля абеду — крышку адпачынку і знаёмствы. Уля пайшла таксама наведаць іншыя студыі. Гофман ізноў нагадвае таго мілага пана, які размаўляў з ёй па тэлефоне. Знаходзіць нават час на пару хвілін размовы з Уляй.

Пасля перапынку — ізноў паўторы сцэн гульні ў карчме і ўваходу Заглобы. Ступакі танцораў усё больш баляць ад таптання па гліняных аскепках. Ды рэжысёру цяпер не падабаецца тэмп маўлення-вітання маладою Заглобы. Пераставляюцца камеры, шукаецца найлепшая версія. Уля шмат разоў знаходзіцца на першым плане. Для яе гэта вельмі істотнае.

— Наступныя сцэны не былі такія ўтамляючыя. Вось сцэна за вясельным сталом. Сапраўдныя стравы — араматнае мяса, печаныя куры, плады, вялізны бохан хлеба, — успамінае з усмешкай ласунку Уля. — Толькі вось віно гэта быў ружовы тонкі сок без смаку. Елі мы ўсё гэта, паводле сцэнарыя, з задавальненнем на тварах. Урэшце і ногі маглі адпачыць. І паўторы не так ужо нас мучылі, хоць апетыт усё быў меншы і меншы...

Здымкі працягваліся да другой гадзіны ночы. У фільме будзе гэта толькі кароткі эпізод.

Вельмі цешыцца з гэтай Улінай прыгоды таксама і дзед Васіль. Праўда, не думае, так як і ўнучка, што чакае яе кар'ера вядомай у свеце Ізабелы Скарупкі, родам таксама з Беласточчыны.

**Міра Лукша**

# Калісьці і я быў уланам



*Іраіда і Сямён Добашы (здымак з 1997 года).* Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

**Пра бежанства і жыццё пры санацыі расказваюць сужонства Іраіда і Сямён ДОБАШЫ з вёскі Рудуты Арлянскай гміны.**

Успамінае 84-гадовая Іраіда Добаш:

— У бежанства ў 1915 годзе падаліся амаль усе жыхары Рудутаў. Мне тады не было яшчэ і году. Мая мама Тэкля ахутала мяне ў плахту, закінула на спіну і стала збірацца ў дарогу. У нашым доме былі ўжо рускія байцы і яны раілі маці нідзе не ехаць. У той час бацька Хілімон быў на фронце. У бежанства ў Расію падаліся тады 17-гадовы брат Арцём і крыху малодшыя Андрэй і Ян ды сястра Аксіня.

Пасялілі нас у Калузе і, як расказвала мама, жыць было там нядрэнна. Мой найстарэйшы брат быў музыкантам і гэтым зарабляў на жыццё. Другі брат памагаў у алейні (паганяў коней) і прыносіў дахаты алей. Сястра служыла ў бацюшкі, а мама займалася мною. На год да вяртання знайшоў нас бацька. Распытваў ён пра нас на станцыі і трапіў на нашага суседа. Там, дзе мы апынуліся, гадавалі многа свіней дык мы нават у Рудуты прывезлі з сабой кавалак тамашняга сала.

Прапанавалі нам астацца ў Расіі і дзіваваліся, што мы хочам вяртацца. А мы адказвалі, што „там, у Рудутах, нам сцяжынка пахне". Вярнуліся мы восенню 1922 года на брычцы, запрэжанай у пару коней. Карысталіся мы яшчэ ёю ў Рудутах.

Нашы будынкі былі спалены, а панадворак — зарослы пустазеллем. Мне, васьмігадовай дзяўчынцы, запамяталася, як мама паказвала, дзе стаяў наш дом. Пайшлі мы жыць у маленькую дзядзькаву хату. Спалі на падлозе, на кажухах, у якіх было многа вошай. Людзі часта хварэлі тыфам. Неўзабаве, на Раждаство, ад запалення лёгкіх памёр бацька.

У школу хадзіла я ўсяго адзін год. Цяпер то нават ужо я забыла распісвацца. Тады людзі найчасцей хадзілі басанож. У нашай сям'і было надта цяжка, я была паўсіратою. Калі ў 1935 годзе выйшла я замуж за Сямёна Добаша, то муж спярша купіў мне галёшы і плацце, бо ў мяне нічога не было.

Расказвае 90-гадовы Сямён Добаш:

— Майго бацьку Мікіту ўзялі на фронт яшчэ да нашага выезду ў бежанства. Атрымалі мы вестку, што загінуў ён пад Асоўцам. У 1915 годзе ў Расію падаліся маці Ганна, брат Панцеляймон, сёстры Аксіня, Галена, Крыстына і я — сямігадовы хлопчык. На жалезным возе, запрэжаным у аднаго каня, даехалі мы ў Баранавічы і там усё пакінулі. На чыгунцы завезлі нас спярша ў Кацярынопаль на Украіне, а потым перасялілі ў Самару. Не было там для нас работы і жылі мы з невялічкай пенсіі па бацьку і жабравалі. У апошніх гадах нашай там пабыўкі панаваў голад з прычыны засухі. У Расіі закончыў я два класы школы.

Дадому вярталіся мы восенню 1921 года. У Сімбірск даехалі мы на конях, там іх прадалі і далей паехалі таварным цягнікам. Памятаю, што па дарозе было многа перасадак.

У Рудутах на месцы спаленай хаты вырасла асіна, а навокал усё было парослае травой і кустамі. Відаць яшчэ было толькі сцежку да калодзежа. Жылі мы ў дзядзькі, хадзілі жабраваць. Бывала так, што маці абыдзе тры вёскі і назбірае харчоў, якіх хапала толькі раз зварыць. Галадалі мы пастаянна. Людзі хадзілі да арлянскіх яўрэяў і бралі з бойні кроў, на якой варылі ежу. Маці смажыла такі праснак з лапуху (называлі яго „голад") і бульбянога лупіння, якое выпрасіла ў людзей.

Сястра Аксіня пайшла служыць да Мошка, яўрэя, які гандляваў коньмі, а другая сятра — да бацюшкі ў Шчытах. Прызначылі нам 30 кубаметраў драўніны на дом, але трэба было яе прывезці аж з Елянкі. Дзеля гэтага трэба было наняць людзей і накарміць іх (тады людзі толькі за ежу працавалі), а ў нас саміх не было чаго есці і ахвотных памагчы нам не было. Калі мінаў тэрмін, мы палову драўніны аддалі елянцам за тое, каб вывезлі матэрыял з лесу ў сваю вёску. Потым я, 15-гадовы юнак, з маці вазілі гэтае дрэва дзядзькавым канём з Елянкі ў Рудуты, а калі назбіралі грошай, тады майстар паставіў нам дом, а яўрэй зрабіў сталярку.

Усяляк у жыцці бывала. Калі падрос, стаў я сам зарабляць грошы. Выплятаў я драўляныя бароны — каблук быў з лазы, з ядлоўцу хлюбы, а зубы — грабовыя. Прадаваў я іх на рынку ў Бельску. За адну барану плацілі 1,80 — 2 зл. (добрыя боты каштавалі тады 20 зл.). А калі прадаў я яўрэю жарабя і заараў усе аблогі, тады адчуваў я сябе як пан.

Служыў я ў войску ў 25 палку коннай кавалерыі ў Пружанах. Прызыўнікі атрымлівалі там прывучаных коней, а на другі год мы самі рыхтавалі коней для маладых салдат. Мяне, як жаўнера запасу, двойчы прызывалі на месячнае ваеннае абучэнне. У 1935 годзе ажаніўся я з аднасяльчанкай Іраідай Трэскай. Ужо пасля вайны, 1 лістапада 1957 года згарэлі наш дом і ўся забудова ды яшчэ дванаццаць дамоў у канцы вёскі, а прычынай пажару было дзіця, якое неасцярожна забаўлялася агнём. І зноў прыйшлося гадамі будаваць новы дом, ашчаджаць на ўсім. У нас нават і сёння няма тэлевізара, толькі радыёпрыёмнік.

„І так, быў я уланам, а цяпер стаў старым дзедам, — уздыхае Сямён Добаш. — Калісь з зямлі ўмеў я ўскочыць на каня, а зараз з палкай цяжка ўвайсці на сходы".

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

**Апанас Цыхун**

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

***(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)***

**Частка III**

За выкуп зямлі вёскі Кунцаўшчыны сяляне судзіліся з панам Вандалінам Пуслоўскім адзінаццаць гадоў, з 1864 года па 28 жніўня 1875 года. Як сяляне ні даказвалі, усё роўна суд выйшаў за панам Пуслоўскім.

Мой бацька, Пётр, Петрусь, як яго называлі сяляне, Цыхун, меў гаспадарку, якая складалася з чатырох дзесяцін ворнай зямлі, аднаго каня, каровы і паловы сялянскай хаты. Бацькі яго рана паўміралі. У яго быў малодшы брат Іван і сястра Агата. Яна выйшла замуж у вёску Зарубічы. Пасля смерці мужа прыняла прымака па прозвішчы — Рагачэўскі. Па гэтай прычыне сям'ю яе ўсе ў вёсцы называлі Прымаковай. Старэйшы сын — Антось Рагачэўскі гаспадарыў, а малодшы Казімір Рагачэўскі (мой дваюрадны брат), у перыяд панскай Польшчы быў вядомым у Заходняй Беларусі рэвалюцыянерам-падпольшчыкам. Нарадзіўся ён у 1903 годзе ў вёсцы Зарубічы Індурскага сельсавета (былой Індурскай воласці, Гродзенскага павету) у беднай сялянскай сям'і. Жыццё яго мала чым адрозніваласяа ад жыцця сотняў і тысяч такіх як ён сялянскіх дзяцей таго часу. Зямлі ў Рагачэўскіх было мала, каб пражыць двум братам. Па гэтаму Казімір вымушаны быў шукаць сабе пабочных заробкаў. Карчаваў панскі лес, біў уручную каменне для машчэння шашы. Працаваў у асаднікаў. Паўсюды ён бачыў несправядлівасць, цяжкае жыццё сялян, здзекі з боку паноў. На ўсё гэта не мог глядзець абыякава. І ён становіцца на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. За рэвалюцыйную дзейнасць Казімір Рагачэўскі 28 красавіка 1928 года знаходзіўся ў арыштце ў Гродне, дзе перанёс страшэнныя катаванні. На допыце яго білі гірай у грудзі. Лілі ў нос воцат, ламалі рукі, засаджвалі пад ногці голкі, але Казімір не выдаў сваіх сяброў па падпольнай рабоце. 26 мая 1930 года Гродзенскі абласны суд усё роўна яго прыгаварыў да двух гадоў турэмнага зняволення. Пасля адбыцця зняволення Казімір Рагачэўскі знаходзіўся пад суровым наглядам польскай паліцыі. Не адзін раз Казімір трапляў у лапы вядомага ў тыя часы ката Стэфана Вуйцíка. Але ні турмы, ні паліцэйскія нагляды не змаглі пахіснуць стойкага рэвалюцыянера. Яго падпольная барацьба прымала яшчэ больш канспіратыўны характар. Па яго ініцыятыве, у той час, 1 мая 1929 года ў мястэчку Індура быў праведзены першамайскі мітынг. Мітынг быў разгромлены польскай паліцыяй, а яго арганізатар Казімір Рагачэўскі схоплены. Яго вялі з заложанымі назад рукамі два паліцыянты. Раптам непрыкметна да яго падбег адзін хлопец, падаў яму ў рукі камень. Казімір Рагачэўскі яго і скарыстаў. Ён ударыў па галаве аднаму паліцыянту, зваліў яго з ног, а затым цясануў па галаве і другому, які таксама не ўтрымаўся на нагах, сам кінуўся ў тлум людзей. І яму ўдалося скрыцца з вачэй паліцыі. Пасля гэтага Казімір, забяспечыўшыся зброяй, увайшоў у падполле. Некаторы час хаваўся ў Зарубіцкім лесе. Начамі прыходзіў у вёску, сустракаўся са сваімі сябрамі, распаўсюджваў лістоўкі, вывешваў лозунгі, плакаты. Ён быў для польскай паліцыі няўлоўны. Аднак 3 сакавіка 1933 года паліцыі ўдалося трапіць на след Казіміра Рагачэўскага. У той час, калі Казімір Рагачэўскі зайшоў у хату да брата, каб пераадзецца, аб яго паяўленні данёс канфідэнт з вёскі Зарубічы пад клічкай „Ястраб". Узброеная польская паліцыя ўварвалася ў хату, але Казімір Рагачэўскі не разгубіўся. Ён трапным выстралам з нагана палажыў паліцыянта І. Радкевіча, а каменданту Індурскага пастурунку І. Браніцкаму выстралам з нагана выбіў левае вока.



*Казімір Рагачэўскі — дваюрадны брат Апанаса Цыхуна.*

# Адгалоскі

## Менш слоў, больш пачынаў!

„Чарговы ўрок самаедства (...) адбыўся", — так пачынае свой допіс „Даволі!" Яўген Бялькевіч („Ніва" н-р 22 ад 31.05.1998 г.). І далей канстатуе: „Аднаму ад усяго гэтага зрабілася млосна, другога панос панёс, трэцяму здорава адрыгнулася".

Прачытаўшы гэтае, праслухаў я яшчэ раз магнітафонны запіс радыёперадачы Марка Заброцкага ад 28 сакавіка г.г. і сцвердзіў, што нельга згадзіцца з некаторымі выказваннямі аўтара допісу. Не разумею, чаму ён, так абараняючы Асенніка, які „сам, а таксама з сябрамі, поўнасцю адданы беларускай справе і робіць для яе больш чым адзін, два... пяць... семінары, фэсты...", не падае канкрэтных фактаў. Не пярэчу, што маладзя з ЗБМ многа робяць для нашай справы, і што сам Ю. Асеннік „жыве для беларускасці". Дык чаму ж не напісаць пра гэта ў „Ніву"? Няўжо ж Вы, спадар Я. Бялькевіч, лічыце, што журналісты ўсюды даедуць і пра кожную вечарыну ці мерапрыемства напішуць? Вы таксама пішаце капітальна, чаго доказам з'яўляюцца Вашы карэспандэнцыі. Але скажыце лепш, што Вашы калегі не жадаюць гэтага і выгадней ім лічыць „Ніву" бульварнай газетай, якая мае чытачоў „толькі ад свята" (гэта словы спадара Я. Сычэўскага).

На маю думку, замала ў нас талерантнасці і ўзаемнага зразумення. Калі б адзін аднаго крыху цаніў і адносіўся з пашанай, не было б узаемных абвінавачанняў і рознага роду паклёпніцтваў. А так — нашы беларусы быццам сабакі кусаюцца. І дзеля чаго ўсё гэта робіцца?

Пішаце, спадар Бялькевіч, што ва ўсёй гэтай неразбярысе ёсць толькі ахвяры ды пакрыўджаныя. Няма пераможцаў. Аднак, я лічу, што „Ніва" найбольш пакрыўджаная. У радыёперадачы ніхто не назваў акрэсленага прозвішча журналіста. Я. Сычэўскі і Ю. Асеннік кажуць, што „тыднёвік не адказвае поўнасцю патрэбам беларусаў у Польшчы", што „мае вельмі нізкі ўзровень адказнасці", што „няма тут аб'ектывізму" і г.д. і т.п. Добра, што хоць Вы даеце сякую-такую ацэнку „Ніве" і пішаце, што трэба яе чытаць „хоць-бы таму, што яна наша — беларуская". Чаму ж тады не пераглумачыце гэтага сваім калегам?

Я з Вамі згодны ў адным: даволі нарабілі мы сабе ўзаемна свінстваў. Час паяднацца! Хоць і Вы ўжо не верыце ў „нікія сталы", я застаюся аптымістам і веру, што і на нашай вуліцы будзе свята.

**Уладзімір Сідарук**

## Трэлі-трэлі, а, а, а, туп-туп-туп!

З зацікаўленнем прачытаў я два крытычныя артыкулы аб сёлетнім Фестывалі беларускай песні ў 12 н-ры „Нівы" ад 22 сакавіка 1998 г. Аднак артыкул „Бульба сёння, бульба ўчора" Ганны Кандрацюк выклікаў у мяне мяшаныя пачуцці, паколькі гэты тэкст лічу несумленным, незразумелым і зласлівым. Журналістка адмоўна ацаніла арганізатараў мерапрыемства і выканаўцаў, хаця публіка ўзнагароджвала іх бурнымі апладысментамі. Думаю, што ў ацэнцы фестывалю найбольш вераготныя былі слухачы, а не аўтарка артыкула, у якой выразна відаць прадузятае стаўленне да БГКТ — арганізатара мерапрыемства. Я не заўважыў ніякай „пазіцыі на каленях", „штучнага захаплення", а наадварот — на зале панавала сямейная, натуральная, нічым не абмежаваная атмасфера. Не разумею таксама, у чым заключаюцца трагічныя комплексы беларусаў, пра якія піша журналістка, бо ні я, ні мае сябры такога стану не адчуваем. Прыкра мне, што аўтарка Фестываль беларускай песні лічыць „вазелінярствам". А ці ёсць лепшы спосаб паказваць дасягненні нашага самадзейнага руху? Таксама неабгрунтаванымі лічу закіды наконт рэпертуару, вынікаў агляду ці падказку прэзентаваць нашы калектывы на „Славянскім базары" (як да гэтай пары ўдзельнічала ў ім „Маланка", якая БГКТ не паднагалена). У тэксце змешчана яшчэ больш несправядлівых ацэнак і выказванняў, якія абражаюць годнасць усіх беларускіх самадзейнікаў, як і паасобныя калектывы, што ўдзельнічалі ў Фестывалі.

На канец хочацца мне запытаць аўтарку артыкула: ці маральным лічыце выкарыстоўванне фінансаванага дзяржавай (значыць, з нашых падаткаў) тыднёвіка для прэзентацыі неаб'ектыўных і зняважлівых ацэнак? Пасля прачытання артыкула я дайшоў да вываду, што журналістка дыхае агнём нянавісці да БГКТ, арганізатараў Фестывалю і выканаўцаў, што яна здольная толькі на крытыканства, а не на добрасумленную і творчую крытыку, якой прыхільнікам з'яўляюся я сам.

**Канстанцін Масальскі**

# Komunikat

Okręgowa Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu w Olsztynie prowadzi śledztwo w sprawie zbrodni popełnionych w latach 1939-1945 w hitlerowskim obozie pracy przymusowej w miejscowości PILLAU (obecnie Bałtijsk — Rosja).

W związku z powyższym zwracamy się z uprzejmą prośbą przede wszystkim do byłych więźniów tego obozu, a w przypadku ich śmierci do członków najbliższej rodziny, o kontakt listowny lub telefoniczny z naszą Komisją. Prosimy też o zgłaszanie się innych osób posiadających informacje lub dokumenty dotyczące wspomnianego obozu.

Korespondencję prosimy kierować na adres: **Okręgowa Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu, ul. Partyzantów 87, 10-402 Olsztyn. Tel. (0-89) 523-51-23.**

# Конкурс „Нівы"

Рэдакцыя „Нівы" аб'явіла конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач друкуем тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Нівы" на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве" ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Нівы"*.

**ТАЛОН № 2**

**Конкурс тыднёвіка *Ніва***

Першай сталіцай беларускай дзяржавы была

☐ Вільня ☐ Полацк ☐ Менск

# Ці бульба горша ад пыраў?

У аўторак пайшла я на рынак купіць расаду памідораў. Жанчына адлічыла мне жаданую колькасць і завярнула іх у паперу. Калі я прыйшла дамоў, аказалася, што памідоры былі завернуты ў паперу, на якой была надрукавана дзевятая старонка тыднёвіка „Ніва". Старонка была настолькі паднішчаная, што я не была ў стане пазнаць, які гэта нумар. Мне ў вочы кінуўся загаловак — „Бульба сёння, бульба ўчора". Гэта словы песні, якую спявае наш гарадоцкі калектыў. Пачала я чытаць. Чытала некалькі разоў. Не магла скеміць у чым справа? Там было напісана „Ах, ох!" — „Трэлі, трэлі! а, а, а, туп-туп-туп!" Успомнена „Басовішча", „славянскі базар", „масленіца", „сціральны парашок" і „Żeby samego siebie tak wazeliną smarować?"

Гэты артыкул пісала нейкая Ганна Кандрацюк. Не ведаю якую карысць прынёс гэты „каментарый" справе беларускай меншасці ў Польшчы. Ганна Кандрацюк скрытыкавала амаль усіх і ўсё, што адбывалася на Фестывалі „Беларуская песня '98". Яна, відаць, не толькі ўмее пісаць, а яшчэ добра знаецца на спеве. Умее песні падзяліць на „калгасныя" і песні „таннай савецчыны".

Добра было б, каб аўтарка замест крытыкаваць напісала некалькі выдатных песень. Вось, тады не спявалі б „дрындушкі" тыпу: „Бульбу жарыць, бульбу варыць" або „Парсючок пад уаўкай бульбачку грызе", а „Рассяпаны Гарадок" не спяваў бы пра беларускую бульбу, а мо пачаў бы спяваць пра „pyry poznańskie" або „hot-dogi".

Адзінае, чым адзначаецца артыкул і яго аўтарка, гэта дзікая, ядавітая пагарда да роднай, беларускай песні, да яе аўтараў і выканаўцаў. Думаю, што галоўнай мэтай такіх журналістаў — „прафесіяналаў" і такіх „музыкаў" з'яўляецца развал беларускай мовы, песні і культуры.

Ганна Кандрацюк! Звяртаюся да Вас і Вам падобных! Калі апрача крытыкі не ўмееце нічога зрабіць, што магло б прынесці карысць і славу беларусам, дык не падкладайце свінню тым людзям, якія штосьці робяць у тым напрамку.

**Ніна Цыванюк**

**Ад аўтара**: Канстанцін Масальскі прызнаецца, што не разумее майго артыкула. Аднак называе яго несумленным, злаславым, знаходзіць у ім адмоўную ацэнку БГКТ.

Там, дзе закранаю меркаванні наконт віртуальнага вобраза Фестывалю, аўтар адгалоскі бачыць прадузятае стаўленне да БГКТ. І ўсё быццам у абароне годнасці беларускіх самадзейнікаў, калектываў (хаця выключае „Маланку", якая БГКТ не паднагалена), беларусаў з Беларусі, беларусаў з вёскі (закіды ў арыгінале — сфармуляваны ў польскамоўным допісе) і ўрэшце ўсіх падаткаплацельшчыкаў, да якіх і я сама належу.

Ніна Цыванюк, хаця і чытала мой фельетон, некалькі разоў таксама не магла скеміць у чым справа. Аўтарка допісу дэманстратыўна адзначае, што не чытае „Ніву" і толькі дзякуючы памідорам сутыкнулася з маім артыкулам. Аднак асуджае маю журналісцкую прафесійнасць і ставіць мне закід дзікай, ядавітай пагарды для роднай беларускай песні, да яе аўтараў і выканаўцаў. Урэшце прыпісвае мне развал беларускай мовы, песні і культуры.

**Ганна Кандрацюк**

P.S. 16 мая 1998 г. на пасяджэнні ГП БГКТ улады „грамадскім пачынам" правялі суд над маёй журналісцкай прафесійнасцю і маральнасцю.

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com
INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).
Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**
Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міраловіч.

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Гол пад прыпол

У Францыі пачынаецца чэмпіянат свету па футболу і „Ніва", хаця футболам наогул не займаецца, не можа прыхаваць так важнай спартыўнай тэмы пад сукно. Асабліва з увагі на сваіх самых верных чытачоў, вялікіх паклоннікаў найпершага беларускага Балельшчыка, непахісна адданага спорту Прэзідэнта. На вялікі жаль, нашы любімыя футбалісты сталі ахвярамі загавору міжнароднай, нянавіснай Прэзідэнту спартыўнай мафіі, і не прабіліся ў фінал чэмпіянату.

Балельшчыкі польскіх „арлоў" пакрыўджаны не надта, бо заміж экстазаў, якія маглі б ім падараваць на французскіх стадыёнах паганяйлы мяча ад імя Найяснейшай, могуць перажываць розныя эйфарыі ад спаборніцтва сваіх футбольных бюракратаў. Унутрыпольскае змаганне адбываецца пакуль што перад айчыннымі судамі, але існуе пагроза, што нашы таленавітыя польскія юрысты могуць рознымі фокусамі давесці яго да эскалацыі на міжнародную арэну, і без таго абцяжараную шматлікімі — эканамічнымі ці ядзернымі — працістаяннямі. Бо ў нашай дзяржаве цяжка прымаць справядлівыя рашэнні з увагі на пануючую цяпер дэмакратыю: кожны юрыдычны суб'ект мае свой дэмакратычна належны яму закон і здараецца здарацца рулеткавым прыгаворам. Вось, каб пазбегнуць такой інтэрнацыяналізацыі праблемаў нашых фанатаў, а асабліва любімца футбольнай Беласточчыны Януша Вуйціка, раздаліся ў нашай дзяржаве галасы, каб справу вырашыць без юрыстаў — палітычным шляхам. Можна тады спадзявацца, што наш парламент стане скрупулёзна вырашаць, колькі мае быць у польскім экстракласе каманд: сорак дзевяць, дваццаць пяць, семнаццаць ці дванаццаць. Паслы нашы спрактыкаваны ў такіх розыгрышах і можна спадзявацца чарговага, займаючага дух, спектакля.

У Беларусі балельшчыкі не маюць такое раскошы, бо вынікі тамашняй зборнай не ідуць ні ў якое параўнанне нават з польскімі. Ёсць, праўда, у іх пэўная адметнасць, якая дазваляе ім на экстаз з хвілінай выхаду на спартыўную — хакейную або футбольную — пляцоўку першага Спартсмена і Балельшчыка Рэспублікі. Няма там аднак нейкай непрадбачлівасці, як у польскай юрыдычнай практыцы, бо і так загадзя вядома, хто заб'е гол і калі лупцаваць апладысменты. Любімейшы намі Прэзідэнт не з'яўляецца ўсё-такі эгаістам і клапоціцца пра тое, каб і другія, у нашым выпадку футбалісты, забівалі мячы. Нядаўна склікаў ён сваіх спартыўных бюракратаў і даў ім указ ці нейкі другі свой юрыдычны акт, каб поспехі ў беларускім футболе былі.

Такім чынам новыя спартыўныя подзвігі нашых любімцаў чакаюць нас, але, на вялікі жаль, у невядомай будучыні. Цяперака ж трэба слінку каўтаць і з зайздрасцю глядзець на фокусы футбольных віртуозаў другіх нацый. Напрыклад, на амерыканцаў, якія чарговы раз будуць змагацца сярод найлепшых. Пра Амерыку ў нас гаворыцца вельмі многа, але неяк не пашанцавала мне пачуць, каб іхныя парламент ці прэзідэнт вырашалі пра колькасць каманд у розыгрышах ці пра тых каманд састаў. Там затое прэзідэнт болей за сваіх любімцаў і любіміц не адрываючы рук ад прыполаў.

**Адам Маньяк**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. даводзіць да вяселля, 8. вялікая яшчарка, 9. абрадавы парадак, 10. горная асадкавая парода з зернямі кварцу і халцэдону, 11. лірычны чатырнаццацірадковы верш, 13. узвышша з вытокамі Дзвіны і Дняпра, 15. хмызняковы зараснік на поўначы Мексікі, 16. збянтэжанасць, 20. сталіца Непала, 22. лагічнае палажэнне, якое прымаецца без доказу, 23. насланы рад бярвёнаў, 27. правіцель з неабмежаванаю ўладай, 29. сталіца Албаніі, 30. частка вупражы, 31. пакаты спуск, 32. герб ВКЛ, 33. доўгае і шырокае адзенне старажытных грэкаў, 34. сталіца Эквадора.

**Вертыкальна:** 1. пажыўная вадкасць, 2. крайняя беднасць, 4. любіць пасмяяцца, пажартаваць, 5. неадзеравянелая зялёная расліна, 6. працілеглая падлозе, 7. жаночы галаўны ўбор з завязкамі пад падбародкам, 12. барабан з падоўжаным корпусам, 14. неперыядычны літаратурны зборнік, 16. глыбокі акоп у напрамку праціўніка, 17. у еўрапейцаў белая, 18. метка, 19. грашовая адзінка ў Вялікабрытаніі, 21. вадкасць для пісання, 24. паўднёвая алейная расліна сямейства бобавых, 25. можа быць маласольны, 26. старажытны металічны шлем, 27. папрок, 28. від крыжаванкі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 18 нумара**

**Гарызантальна:** танга, небаскроб, байка, сігма, бал, „Калінка", альтыст, сук, салон, пірог, рэчытатыў, Слуцк.

**Вертыкальна:** Гнесіна, тубка, абрыс, Нойзідлер, Багатыроў, Брамс, абсяг, бас, лак, Унструт, начос, паток.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

**Фрашкі пра нашых**

### Музу ў музей?

Без блаславенства
ляцяць эскадроны
Пегасаў мклівых —
коней крылатых...
Стрэліў —
пападалі
ўсе на загоны.
Новую эру
пачаць
з гэтай даты?

### Данаты

Данат
на ста
стронках
выказацца ўмее,
Усю рэчаіснасць
удала
растлумачыць.
А Даната
сказам
адзіным сумее
Усю існасць
веку і лёсу
азначыць.

### Надзея

Лягчэй каб жылося,
адправілі з хаты.
Самі дажыць захацелі,
як будзе.
Якую ж чакаць ім
ад дзетак адплату?
Што людзьмі будуць,
выйшаўшы „ў людзі"?

### Узор

Што бачыў
у дзяцінстве,
Так і цяпер
аддзячыць.
Наглядзеўшыся
свінстваў
І дзядоў сваіх
плачу,
Таксама ім
адкажа,
Сваім бацькам
аддорыць
І хвігу
ім пакажа.
І лёс
зноў лёс
паўторыць.

**Вандар Арлянскі**

## Аказія, або як дзед з бабай сварыліся

На суседскім падворку штодзень здараюцца розныя гісторыі. Бывае, глядзіш на сваіх суседзяў і не ведаеш — плакаць ці смяяцца. Аднойчы вось якая гісторыя выйшла.

Сяджу я на лавачцы, лыгаю абаранкі на вяроўку і ад няма чаго рабіць песні спяваю. Раптам пачалася сварка на суседскім двары; я прысціхла і вось што пачула:

— Ай-яй-яй! Абібок які! Ай, як крыва абкарнаў мяне! Ай што ж я рабіць буду, з галавой такой!!!

Мне стала цікава. Суседскі і мой падворкі аддзелены плотам, а ў тым плоце — маленькая дзірачка. Дык я туды і зазірнула...

Пасярод двара на высокім крэсле сядзела баба Маня. Жанчына не маленькая і надта азызлая. Самае цікавае, што была яна амаль зусім лысая. Баба Маня глядзелася ў люстэрка і галасіла.

— Ой-ой-ой, як абкарнаў, ай-яй-яй! Што ж бабам сваім скажу, як у краму пайду? Гэта ж — ніводзін дзед са мною таньчыць не пойдзе! Ай-яй-яй, ой-ой-ой!..

Побач стаяў дзед Антось — худзенькі, маленькі, з вялізнымі нажніцамі ў адной руцэ, другой ёй збянтэжана чухаў патыліцу і ціхенька вохкаў:

— Ах ты, аказія якая! Што за ляпсус? І сапраўды зашмат абрэзаў. Ох-ох-ох... Што ж рабіць, што рабіць?

А баба ўжо не галасіла. Яна ўсхапілася з крэсла і як кінецца за дзедам!

— Ёлупень стары! Фанфарон нехлямяжы! Ты ж казаў, што ўмееш; ты ж казаў, што ведаеш, як трэба!.. Ёлупень, фанфарон, дурань! А-а-а! Я ведаю, навошта ўсё гэта зрабіў. Бо хто ж надоечы лынды біў і тачыў лясы з суседскімі дзяўчатамі? А?.. Не лыпай вачыма! Я ўсё ведаю. Ты спецыяльна мяне абкарнаў, каб паскакаць з іншымі маладзенькімі і прыгожымі. Але — я ж табе не прабачу... На танцы ўсё роўна са мной пойдзеш!

Як казала баба Маня — так і зрабіла. На танцы — амаль лысая — пайшла з дзедам. І, што самае цікавае, мела непраўдападобны поспех: з ёй скакалі не толькі наскія, але і нетутэйшыя хлопцы. А пра дзядоў і казаць няма чаго...

**Аліна Сурская**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Ці гэта праўда, што леў не пакрыўдзіць чалавека, які нясе паходню?

— Гэта залежыць, як хутка чалавек нясе тую паходню.

* * *

— Якая хвароба найнебяспечная?

— Любоў, бо двое людзей запар кладзе ў ложак.

* * *

— Як закончылася твая спрэчка з цешчаю?

— Прыпаўзла да мяне на каленях.

— Няўжо?! І што сказала?

— „Вылазь з-пад ложка, ты трусе!"

* * *

Мікола выходзіць з піўнушкі і зігзагам пляцецца да свайго самахода. Затрымоўвае яго паліцыянт:

— Ці вы ў такім стане хочаце ехаць аўтамабілем?

— Дык жа вы хіба самі бачыце, што не магу ісці пехатою.

* * *

— Чакаюць мяне сёння цяжкія хвіліны, — гаворыць Мікола буфетчыку. — Наліце мне куфель піва!

Буфетчык моўчкі налівае.

— Наліце яшчэ адзін...

Бармен не адмаўляе заклапочанаму чалавеку. Пасля пятага куфля ўсё ж такі цікавасць перамагае:

— А што ж гэта за эмоцыі вас чакаюць?

— Бо, бачыце, я не маю пры сабе ні капейкі.

* * *

Мікола праходзіць каля піўнушкі; раптам перад ім вылятае з яе на тратуар яго сябра.

— Выкінулі цябе? — пытае.

— А я ўжо і сам збіраўся выходзіць.

* * *

— Афіцыянт, гэтае піва цёплае!

— Немагчыма: я сам даліваў у яго халодную ваду.